11 мая 2018 | № 17 (580)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144







Ад Сакартвела да Залатой Арды
Стар. 9

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

4 ХТО І ЧАМУ ПРЫВАТЫЗАВАЎ ПЕРАМОГУ

Улада, якая пазбаўленая вобразаў або праектаў будучыні, асуджаная на павольную дэградацыю




5 ШТО НЕ ТАК З ТАЛЕРАНТНАСЦЮ БЕЛАРУСАЎ?

Паводле даследавання амерыканскіх спецыялістаў узроўню талерантнасці ў розных краінах Еўропы, Беларусь увайшла ў тройку неталерантных дзяржаў

6–7 ДЗІЦЯЧЫМІ ВАЧЫМА – ВАЙНА




10 ЭТНАЛАГІНЯ НІНА АБРАМЧЫК

Яна ўвесь час заставалася ў цені мужа, апісвалася ў святле патрыярхальнай традыцыі, як жонка прэзідэнта Рады БНР у выгнанні Міколы Абрамчыка

# Заробак «па 500»: чакаем другога сезону?

## Ці будзе працяг «рэаліці-шоў у маштабах краіны»?



Сяргей ПУЛЬША

«Пакольківы будзеш мець справу не з крымінальнікамі, а з палітыкамі — не вер нікому. Ні адзінаму слову», — такую параду даваў Майкрафт Холмс свайму брату Шэрлаку. У яе стопрацэнтнай справядлівасці мы цяпер пераканаліся.

Зусім нядаўна журналісты падлічылі, што абяцанням Аляксандра Лукашэнкі зрабіць сярэдні заробак па краіне ў 500 долараў (цяпер 1000 рублёў) споўнілася 10 гадоў. Падавалася б, ён пра гэта казаў неаднаразова, і фраза «па 500» шмат разоў абыгрывалася ў самых розных сітуацыях і варунках. Аднак высвятляецца, што кіраўнік дзяржавы нічога такога не гаварыў, не абяцаў і не думаў.

Міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі ў інтэрв'ю тэлеканалу АНТ 6 мая 2018 года заявіў, што... задачу па давядзенні сярэдняга заробку да 1000 рублёў ніхто не ставіў!

«Я проста вам хачу сказаць, што ніколі любымі шляхамі ні ўрад, ні тым больш прэзідэнт не ставілі такой задачы. На канкрэтных прадпрыемствах павінна ўсё ж прадукцыйнасць працы апярэджваць рост заработнай платы, тады атрымаецца добры баланс, тады будзе расці заработная плата», — прамовіў Зіноўскі.

Зразумела, што неабгрунтаванага росту заробку быць не павінна. Але з Зіноўскім усё ж можна паспрачацца.

Найперш, у тэрміналогіі. «Прадукцыйнасць працы», якая апярэджвае рост заробку — не паказнік. Мы ўжо бачылі багата прыкладаў, калі тая самая прадукцыйнасць прыводзіла да затаварвання складоў. Зараз важна не толькі стварыць прадукцыю, але і паспяхова яе прадаць. Менавіта з гэтага — з усяго цыклу вытворчасці і продажаў — павінен расці заробак. І заробак не толькі вытворцаў, але і менаджараў, што прадаюць.

Тым не менш, са словаў Зіноўскага мы павінны зразумець адно: тое, што нам паказваюць па тэлебачанні, што мы чуем па радыё і чытаем у афіцыйнай прэсе — суцэльная лухта. Гэта спектакль альбо моднае «рэаліці-шоў», якое ад слова «рэаліці» не перастае быць «шоў». Перад намі разыгрываецца нейкая пастаноўка: адны «ставяць задачы ўраду і не толькі ўраду», потым робяцца тытанічныя высілкі, каб пастаўленыя задачы выканаць, а потым аказваецца — ніхто нічога не ставіў і не абяцаў! Гэта быў толькі «сюжэт у сцэнары». Сюжэт, які бачыла, якім захаплялася, якому суперажывала ўся краіна.

Пэўна, серыял «па 500» па ўцягнутасці ў яго насельніцтва адной асобна ўзятай краіны можа параўнацца хіба што з папулярнасцю «Санта-Барбары».

Адзіная хіба — мы неяк не ўсвядомілі, што гэта шоў. Развіццё сюжэту ішло без пазнакі пра мастацкасць ці забаўляльнасць праграмы. Падзеі развіваліся ў выпусках навінаў і афіцыйных паведамленнях уладаў. Можа быць, такая і была задума рэжысёра: каб зрабіць гэтае «рэаліці-шоў» максімальна «рэаліці».

Але любое шоў надакучвае гледачу — і павінна мець фінал. Словы Зіноўскага, падаецца, і ёсць такі фінал. Прычым, фінал няўдалы.

У гледача гэтага шоў з'яўляецца адчуванне, што яго падманулі.




Калаж www.b-g.by

Па-першае, ніхто не папярэдзіў, што гэта ўсё — «пастановачныя кадры», хоць некаторыя пра гэта і здагадваліся. Па-другое, няма «хэпі-энду», хутчэй, наадварот — вынік супрацьлеглы чаканням. Па-трэцяе — нейкая раптоўнасць завяршэння шоў. Нібыта ў спонсараў і рэкламадаўцаў скончыліся грошы на яго працяг. А мы гэтага працягу чакалі. Бо яшчэ 2 сакавіка прэс-служба кіраўніка дзяржавы паведамляла: слухаючы справаздачу ўрада, Нацбанка, аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама аб выніках работы эканомікі краіны за 2017 год, Лукашэнка «запатрабаваў на працягу года перасягнуць узровень сярэдняй зарплаты ў краіне ў 1000 рублёў».

Ад усяго пералічанага з'яўляецца пачуццё недаверу. Канешне, гэта можа быць такой «заманухай», якой карыстаюцца стваральнікі замежных экшн-серыялаў. Ці не кожны раз яны абвяшчаюць, што пасля заканчэння «гэтага сезону» працягу не будзе, а потым, «па настойлівых патрабаваннях фанатаў»,

> **Прасцей было б шчыра сказаць: «Мы не ў стане выканаць патрабаванні, якія да нас вылучаюцца»**

здымаюць яшчэ адзін сезон, які «дакладна будзе апошнім». І потым яшчэ «апошні сезон». І яшчэ.

Але ж наш урад і нашая ўлада, падаецца, не павінны мець ніякага дачынення да шоў-бізнесу.

Небяспека ў тым, што пачуццё недаверу і падманутасці тычыцца асноўных дзяржаўных інстытутаў. Найперш, усіх інстытутаў улады — кіраўніка дзяржавы, які патрабаваў «па 500», ураду, які патрабаванне не выканаў і ўвогуле яго аспрэчыў, да мясцовых начальнікаў, якія зараз, спасылаючыся на словы Зіноўскага, могуць казаць: «Ніхто вам нічога не абяцаў». Асаблівы недавер узнікае да афіцыйных СМІ, якія раскручвалі гэтую тэму агулам, і да беларускіх навінавых праграм у прыватнасці.

Крыўда ўзмацняецца тым, што народ адчувае: улада — гаспадар свайго слова ў найгоршым варыянце, кшталту «сам слова даў — сам забраў». І тут ужо нічога не спішаш на «аб'ектыўную сітуацыю», «сусветны эканамічны крызіс» і «міжнародную абстаноўку». Пасля такога нахабнага завяршэння серыялу апраўданням наўрад ці хто паверыць.

Прасцей было б шчыра сказаць: «Мы не ў стане выканаць патрабаванні, якія да нас вылучаюцца». І, можа быць, сысці ў адстаўку, вызваліўшы месца тым, хто хаця б мае ўяўленне, як гэта можна зрабіць. Але шчырасць, як паказвае практыка, — не наш метад.




# Як ідэолагаў Кобрына напалохала экскурсія

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**На мінулым тыдні грамадскі актывіст з Кобрына Алесь Мех прапанаваў мне зрабіць экскурсію, прысвечаную гісторыі баёў Верасьнёўскай кампаніі 1939 года на Кобрыншчыне.**

Я даўно займаюся гэтай тэмай. У 2016 годзе на дзяржаўным канале АНТ выйшаў фільм «Бітва за Кобрын. Закладнікі сакрэтнага пратакола». Раней было апублікавана шмат артыкулаў. Карацей, тэма для мяне блізкая і зразумелая. Больш за тое, я, маючы педагагічную адукацыю і з'яўляючыся кандыдатам гістарычных навук, люблю працаваць з моладдзю і знаёміць яе з малавядомымі гістарычнымі фактамі. А ў Кобрыне мяне чакала некалькі дзясяткаў навучэнцаў школы №7.

5 траўня ў 10 гадзін раніцы мы з экскурсантамі сабраліся на старых кобрынскіх могілках, побач з пахаваннямі абаронцаў горада ў верасні 1939 года. Падчас лекцыі-экскурсіі я расказваў пра польскую дывізію «Кобрын», жаўнеры якой спынілі танкі Гудэрыяна. Дарэчы, сярод абаронцаў было шмат беларусаў і ўраджэнцаў Заходняй Беларусі. Большасць з іх загінула ў тых баях. Гэтыя людзі яшчэ ў верасні 1939-га зрабілі першы крок да Перамогі ў траўні 1945-га.

Таксама я распавёў пра гісторыю капрала Эварыста Зайкоўскага, які мог з'ехаць з Польшчы, але выбраў лёс жаўнера і загінуў 17 верасня 1939 года ў баях за Кобрын. Безумоўна, расказваў я і пра падзеі «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь», і пра ахвяраў бальшавікоў.

Сваю экскурсію я ілюстраваў здымкамі з прыватнага архіву, а таксама ўніформай падпаручніка Войска Польскага ўзору 1936 года, у якую я быў апрануты. Дзеці і іх настаўнікі з цікавасцю і захапленнем слухалі факты з гісторыі сваёй зямлі, а таксама рабілі здымкі.

Прайшло ўсяго некалькі дзён — і з Кобрына прыходзіць шакуючая навіна: кіраўніцтва аддзела адукацыі, спорту і турызму Кобрынскага райвыканкама запатрабавала ад настаўнікаў школы №7, якія ўдзельнічалі ў маёй экскурсіі, напісаць тлумачальныя запіскі наконт мерапрыемства. Маўляў, «адбылася нейкая фотасесія, не важна з кім».

Вось так: робіш добрую справу, расказваеш школьнікам гісторыю іх роднага горада на прафесійным і пры гэтым даступным узроўні, а тут у тваёй дзейнасці ідэолагі і чыноўнікі ўгледжваюць нейкую крамолу, а ахвярамі ўсяго гэтага становяцца звычайныя настаўнікі.

Сітуацыя да болю нагадала тую, што была ў 2014 годзе з выставай «Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг.», якую зачынілі з Заслаўі. Тады адміністрацыю Музея-запаведніка таксама замучылі пісаннем тлумачальных, а потым звольнілі.

І экскурсія «Кобрын. Верасень 1939 года», і выстава «Другая сусветная вайна на здымках з архіва Ігара Мельнікава», якая працуе ў мінскай Галерэі TUT.BY, прымеркаваныя да свята Дня Перамогі. Важнага для маёй сям'і. Майго свята. Але я хачу, каб беларусы ведалі, што Другая сусветная вайна прыйшла на іх зямлю не 22 чэрвеня 1941 года, а 1 верасня 1939 года. І першыя нямецкія бомбы на заходнебеларускія гарады ўпалі менавіта тады, а люфтвафэ наваздзілі на Варшаву, Кобрын, Гродна і Брэст… з Мінску. Пра гэта Масква і Берлін дамовіліся яшчэ ў жніўні 1939 года.

І калі мы кажам, што ў Беларусі «ніхто не забыты», то трэба памятаць і гераізм чырвонаармейцаў, якія біліся супраць немцаў у Беларусі ў чэрвені 1941 года, вызвалялі нашу краіну ў 1944 годзе, а таксама беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, жаўнераў Войска Польскага, якія сказалі Гітлеру «не» яшчэ ў 1939-м.

***

Начальнік аддзелу адукацыі, спорту і турызму Кобрынскага райвыканкама Галіна Радковіч сказала карэспандэнту «Радыё Свабода», што настаўнікі павінны патлумачыць, куды хадзілі і з кім сустракаліся.

«У мяне ў загадзе па 7-й школе напісана, што ў дзяцей запланавана «знаёмства з архітэктурай касцёла». А насамрэч адбылася нейкая фотасесія, не важна з кім. У загадзе было адно — а на выхадзе атрымалася іншае. Калі ласка, калі настаўнікі хацелі сустрэцца з гісторыкам, даведацца нешта большае, дык укажыце гэта ў мэце экскурсіі. А не потым прыдумляйце. І потым вы выкладаеце фотаздымкі, куды пайшлі нашы вучні. То бок я бачыла загад на наведванне, а гэта выйшла за рамкі. Таму няхай патлумачаць. Нічога страшнага не адбылося», — сказала Галіна Радковіч.

# Ён іх не пачуў...

Мікалай ДЗЯДОК

**Надзея на «добрага цара» зноў аказалася марнай.**



Ужо некалькі тыдняў чытачы незалежных СМІ сочаць за галадоўкай удзельніц «Матчынага руху 328». Больш за дзясятак жанчын з розных гарадоў галадаюць. Хтосьці патрабуе перагляду прысудаў, хтосьці — сустрэчы з генеральным пракурорам, а хтосьці — сустрэчы з Лукашэнкам.

У нейкі момант гэтая гісторыя і метад змагання, абраны жанчынамі, пачалі выклікаць асцярожную надзею: Наталля Качанава прыняла галадоўніц у Адміністрацыі прэзідэнта, а законапраект аб змякчэнні адказнасці спажыўцам кантраляваных рэчываў абяцаюць разгледзець ужо ў студзені. Падавалася, што Лукашэнка даведаецца пра галадоўку — і, суворы да апазіцыянераў і «пятай калоны», пранікнецца праблемамі простых жанчын. Тым больш, што тыя дэманстратыўна дыстанцыяваліся ад палітыкі.

Але гэтыя надзеі былі зруйнаваныя на карані. Кіраўнік дзяржавы заявіў аб недапушчальнасці паслаблення адказнасці за распаўсюд наркотыкаў (менавіта за гэта і былі асуджаныя дзеці актывістаў «Матчынага руху 328»), а галадоўніц абвінаваціў у тым, што яны «аказваюць ціск на суд» (можна падумаць, суддзі дрэнна спяць ад таго, што жанчыны забіваюць уласны арганізм), ды сказаў, што гэта «недапушчальна».

«Ён нас не пачуў», — у роспачы абураюцца жанчыны, якія ў гэтым змаганні паставілі на кон сваё здароўе.

Не пачуў… З эмацыйнага боку хочацца ўсклікнуць: а калі і каго ён «чуў»? Адзінае, што выразна пачуў Лукашэнка, — гэта сігнал аб апалітычнасці і лаяльнасці пратэстоўцаў. Сігнал аб тым, што яны прызнаюць яго ў праве вырашаць лёс іх дзяцей. Галадоўніцы выдатна разумеюць, што ні Канюк, ні Сукала не ў стане вырашыць пытанне аб артыкуле 328 — яно палітычнае, як робіцца палітычным любое пытанне, па якім Лукашэнка выразна акрэсліў сваю пазіцыю.

Вера ў «добрага цара» — гэта тое, аб што адвеку спатыкаліся многія рухі і аб'яднанні людзей, якія спрабавалі дагрукацца да ўлады. Гэта суддзі і пракуроры злыя і бяздушныя — а калі б Лукашэнка ведаў, ён бы гэтага не дапусціў. Гэта Сукала і Канюк хаваюць праўду — а Лукашэнка выправіць усё, як толькі яму давядуць да ведама. І маці ў роспачы ідуць у АП як у апошнюю інстанцыю — за справядлівасцю.

І вось, апынулася, што Лукашэнка якраз усё ведае. І пра жанчын, якія ледзь не губляюць прытомнасць, і пра хлопцаў-дзяўчат, якія ў свае 18 гадоў атрымліваюць па 10–15 гадоў калоніі. І адказ такі, як і заўжды: «узмацніць», «не дапусціць» — і абвінавачванні на адрас незадаволеных.

Але не такія далёкія іншыя прыклады. Увесну 2017-га пачуў? Безумоўна. Бо тысячы людзей, якія ніколі не выходзілі на вуліцы, выйшлі з лозунгам: «Лукашэнка, сыходзь!» — і зразумеў, што лягчэй адмяніць дэкрэт, чым сысці. Калі акцыя «Стоп-Бензін» у 2012-м некалькі разоў перакрывала цэнтральны праспект — пачуў і панізіў цэны на паліва, бо зразумеў — у адваротным выпадку цана для ягонай улады можа апынуцца занадта дарагой.

А жанчын — якія наносяць шкоду выключна сабе і свайму здароўю — не пачуў. І не пачуе ніколі.

# Лайфхакі для намесніка міністра інфармацыі

Таццяна ГУСЕВА, «Салідарнасць»

**Экс-кіраўнік прэс-службы Лукашэнкі, а цяпер намеснік міністра інфармацыі Павел Лёгкі закрануў цяжкую для многіх беларускіх журналістаў тэму — закрытасць дзяржаўных органаў.**

На пасяджэнні рабочай групы па дапрацоўцы праекта змяненняў у Закон аб СМІ Лёгкі выказаў меркаванне: кіраўнікоў дзяржорганаў трэба вучыць не баяцца стасункаў са СМІ.

«Дзяржорган павінен даваць пісьменную праверану інфармацыю. Калі інфармацыя аказваецца фэйкавай, гэта наносіць шкоду іміджу міністэрства ці ведамства, — прыводзіць БелТА словы намесніка міністра інфармацыі. — Тут пытанне, напэўна, не ў заканадаўчым рэгуляванні, а ва ўменні кіраўніка працаваць у сферы грамадскіх сувязяў. Іх гэтаму трэба вучыць. Многія разлічваюць на прэс-сакратароў, сярод якіх нямала пісьменных людзей. Але часцяком іх імкненне штосьці зрабіць для СМІ сутыкаецца з зачыненасцю пазіцыі кіраўнікоў».

Лёгкі дадаў, што Мінінфарм плануе абмеркаваць тэму арганізацыі адпаведнага курса ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце.

Як бачым, намеснік міністра інфармацыі заклапаціўся праблемай доступу да інфармацыі, з якой ужо больш за два дзясяткі гадоў кожны дзень сутыкаюцца беларускія журналісты. «Без каментараў!» — самы папулярны адказ чыноўнікаў, якія «не бачаць» журналістаў па тэлефоне і таму кідаюць слухаўку, пачуўшы, што тэлефануе карэспандэнт.

Яшчэ ў 2015 годзе Лукашэнка раскрытыкаваў чыноўнікаў, якія не хочуць мець зносіны з журналістамі, прыкрываючыся ўнутранымі інструкцыямі: «І наогул, трэба выпрацаваць практыку: калі міністр або службовая асоба беспадстаўна адмаўляюцца размаўляць з журналістамі — гэта не міністр і не службовая асоба. Выганяць трэба! Дзясятак выгнаць — і праблема знікне», — заявіў кіраўнік дзяржавы і прапанаваў узяць пытанне на кантроль.

З тых часоў вы чулі хоць пра адзін выпадак, каб міністра выгналі за тое, што ён інтэрв'ю не даваў?

І вось праз тры гады пасля гэтых слоў Міністэрства інфармацыі прапануе арганізаваць спецкурс для чыноўнікаў «Як не баяцца мець зносіны з журналістамі». Вучыць іх будуць у Акадэміі кіравання пры прэзідэнце. За бюджэтны кошт — гэта значыць, за нашы з вамі грошы. Мала ім, што мы ўжо трымаем армію ідэолагаў і супрацоўнікаў дзяржаўных СМІ, якія датуюцца з бюджэту.

Ёсць просты спосаб зэканоміць дзяржаўныя сродкі і навучыць чыноўнікаў размаўляць з журналістамі. І для гэтага не трэба вынаходзіць ровар і адпраўляць дзяржслужачых на спецкурсы.

Рэцэпт просты: падзел галінаў улады і сумленныя выбары, у тым ліку органаў мясцовага самакіравання. Чыноўнік, якога абраў народ, наўрад ці адмовіцца размаўляць з журналістам, таму што разумее — інакш ён пазбавіцца пасады.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Стабільнасць» патрабуе ахвяраў?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падаецца, што якраз для шматлікіх выходных нам прыберaглі некаторыя не вельмі вясёлыя навіны. Маўляў, людзі ў такія дні ўсё роўна навінаў не чытаюць, таму лепей хай яны застануцца па-за ўвагай. Мож быць, гэта і слушна.**

Адна з іх — МУС вынесла на грамадскае абмеркаванне праект змяненняў у Закон «Аб дарожным руху». З заўважных навацыяў — тое, што да 2020 года вырашана адмовіцца ад савецкіх бестэрміновых вадзіцельскіх пасведчанняў і прызнаць іх несапраўднымі. Гэта значыць, кіроўцам, у якіх такія пасведчанні захаваліся, трэба будзе іх мяняць. На якіх умовах — пакуль не паведамляецца.

Праектам прадугледжана налічэнне штрафных балаў кіроўцам, якія парушаюць ПДР. Сутнасць простая: набраў за каляндарны год пэўную колькасць балаў нават за «лёгкія» правапарушэнні — пазбавішся правоў на паўгода.

У 1 бал ацаніў парушэнні, штраф за якія не перавышае трох базавых велічынь (напрыклад, няпройдзены тэхагляд, стаянка ў неналежным месцы і іншае), а таксама тыя, за якія высылаюць «лісты шчасця» (хуткасць і паркоўка). 2 балы налічаць за парушэнні, штраф за якія не перавышае пяці базавых велічынь (напрыклад, праезд на чырвонае святло або парушэнне патрабаванняў знакаў і разметкі). 3 балы вы атрымаеце за парушэнні, штраф за якія не перавышае дзесяці базавых велічыняў (гэта перавышэнне хуткасці на 30 і больш км/г і інш.).

4 балы налічаць за парушэнні, штраф за якія больш за дзесяць базавых велічыняў і пазбаўленне правоў (ваджэнне ў нецвярозым стане, выезд на сустрэчную, няпропуск хуткай і іншыя грубыя парушэнні).

Цікава, што «штрафныя балы» не замяняюць адказнасць за самі парушэнні — штрафы і пазбаўленне правоў. То бок, у выніку ў аўтааматараў можа скласціся тая сітуацыя, якая забаронена беларускім заканадаўствам, але, тым не менш, сустракаецца вельмі часта. Гэта калі чалавек двойчы нясе адказнасць за адно і тое ж правапарушэнне.

Невясёлая навіна прыйшла і з банкаўскага сектару. Беларусы становяцца ўсё больш закрэдытаванымі: нягледзячы на тое, што нядаўна Нацбанк прыняў інструкцыю, якая абмяжоўвае выдачу крэдытаў насельніцтву. Як піша select.by, запазычанасць па крэдытах, выдадзеных беларускімі камерцыйнымі банкамі (без уліку Банка развіцця) эканоміцы ў беларускіх рублях, у сакавіку 2018 года павялічылася на 232,5 мільёна рублёў (1,2% у параўнанні з лютым) і дасягнула 19 мільёнаў 710 тысяч 800 рублёў. Гэта амаль у 3 разы вышэй за сакавік 2017 года. Пры гэтым запазычанасць па крэдытах у замежнай валюце засталася прыкладна на ўзроўні мінулага года і склала 75,5 мільёна доляраў.

Але мы не былі б аптымістамі, калі б не шукалі ў гэтай сітуацыі нешта добрае. Справа ў тым, што асноўны ўнёсак у павялічэнне валютнай запазычанасці зрабілі так званыя «нябанкаўскія крэдытна-фінансавыя арганізацыі». Іх доўг банкам вырас у параўнанні з лютым на 43 мільёны доляраў (6,2%) і дасягнуў 740,2 мільёна доляраў. Запазычанасць гэтых арганізацый у беларускіх рублях павялічылася на 8,9 мільёна рублёў (6,2%) — да 164,9 мільёна рублёў.



Дэ-факта гэта азначае, што фінансавая пісьменнасць насельніцтва ўзрасла. Мала хто вядзецца на абʼявы кшталту «грошы да заробку» з нібыта малымі, а насамрэч рабаўніцкімі працэнтамі. Беларусы пачалі пазычаць грошы цывілізавана — у банках. Гэта адлюстроўвае нават той непрыемны факт, што асноўная рублёвая запазычанасць банкам — ад фізічных асоб. Іх запазычанасць у беларускіх рублях па спажывецкіх крэдытах павялічылася ў сакавіку на 93,3 мільёна рублёў (2,9%) і дасягнула 3 268,1 мільёна рублёў.

Калі казаць пра фінансы, то адносным поспехам могуць пахваліцца нашы фіскальныя органы. Так званы «Падатак на Google», які пачаў працаваць напачатку года, прынёс краіне ў I квартале 3,1 мільёна рублёў. Падатак на дададзеную вартасць за электронныя паслугі выплацілі 34 замежныя арганізацыі, якія аказваюць паслугі ў электроннай форме фізічным асобам у Беларусі. Спіс такіх кампаній, сярод якіх Google, Amazon, Apple, Netflix, Linkedin, Booking.com, Uber, апублікаваны на сайце МПЗ у электронным сэрвісе «е-ПДВ».

Такі поспех, падаецца, абумоўлены тым, што падаткавікі не спяшаюцца абдзіраць замежных гігантаў. Калі раскінуць паўтара мільёны доляраў на 34 кампаніі, атрымаецца, што кожная з іх заплаціла ў сярэднім каля 44 тысяч доляраў. Пагадзіцеся, для Google, Amazon, Apple і Uber такія «выдаткі» нават не заўважныя. Але нітка да ніткі — беднаму сарочка.

Аднак падаткі чамусьці ніяк не ўплываюць на штодзённае жыццё беларусаў. Сумная навіна прыйшла з Віцебску. Гэты абласны цэнтр стаў першым, дзе колькасць разводаў перавысіла колькасць узятых шлюбаў. За першыя месяцы года там было зарэгістравана 378 шлюбаў і 435 разводаў. Год таму за такі самы перыяд сітуацыя была амаль адваротная — 436 шлюбаў і 354 разводы.

З буйных гарадоў падобная дыспрапорцыя зафіксаваная ў Пінску (122 шлюбы і 133 разводы) і Жодзіна (65 шлюбаў і 68 разводаў). У іншых рэгіёнах шлюбаў усё яшчэ больш, але розніца паміж вяселлямі і разводамі змяншаецца.

Улічваючы тое, што зараз у ЗАГСы ідуць тыя, хто нарадзіўся ў 1990–1992 гадах — у час, калі Беларусь пачала падаць у дэмаграфічную яму, колькасць шлюбаў будзе скарачацца. Найбольшая колькасць шлюбаў распадаецца праз два гады пасля вяселля. Гэта значыць, што разводзяцца тыя, хто нарадзіўся яшчэ да пачатку дэмаграфічнай ямы. Такім чынам, сумная статыстыка будзе павялічвацца: колькасць разводаў будзе расці, а тых, хто збіраецца пабрацца шлюбам, проста натуральным чынам бракуе.

Ну і цікавую навіну падкінуў афіцыйны партал sb.by. Незвычайна скончылася для пяцікласнікаў адной з мінскіх школаў экскурсія на вядомы шклозавод «Нёман» у Бярозаўцы. На заканчэнне экскурсіі кожнаму дзіцяці падарылі «набор шклянак 35 г для халодных напояў». На памяць. Па дарозе дадому дзеці ў аўтобусе распакавалі падарункі, разлівалі ў іх колу, чокаліся і выпівалі.

Пра якое здароўе нацыі і шлюбы мы можам казаць, калі ў нас пяцікласнікі ўжо «чокаюцца і выпіваюць»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Святаслаў Барановіч

**Усё ж такі беларусы — вельмі салідарныя і ўдзячныя людзі. Вязня, які бараніў анархістаў ад свавольства міліцыянтаў у цывільным, не пакідаюць сам-насам.**



Грамадою сабрана 1000 доляраў для яго і сям'і, паведаміў на сваёй старонцы ў фэйсбуку грамадскі актывіст Андрэй Стрыжак. Раней грамадзяне перадавалі грошы сям'і Барановічаў — маці і сястры — наўпрост. Цяпер быў арганізаваны збор сродкаў праз фэйсбук.

«Учора перадаў суму сястры Святаслава Наталлі, — піша Стрыжак. — Распавядала пра тое, што лісты Святаславу прыходзяць у такой колькасці, што ён нават просіць дапамогі ў апрацоўцы карэспандэнцыі ў сукамернікаў. Грошы, якія перавялі наўпрост на яго рахунак у калоніі, на шчасце, дайшлі (першапачаткова былі нейкія замінкі з прыёмам пераводаў). Захоўвае прысутнасць духу і працягвае абскарджанне прысуду. У Святаслава цяпер выдатны адвакат, і я ведаю, што ўсё, што можна зрабіць у рамках беларускай сістэмы, ён зробіць».

Наталля перадае словы вялікай удзячнасці кожнаму, хто адгукнуўся на заклік аб дапамозе. Сям'я не пакідае Святаслава ў бядзе, пастаянна з ім на сувязі, наколькі гэта магчыма ў калоніі.

Нагадаем, Барановіч быў асуджаны за тое, што абараняў ад затрыманняў удзельнікаў «Марша недармаедаў» год таму. Ён некалькі разоў ударыў амапаўца ў цывільным — бо не ідэнтыфікаваў яго як супрацоўніка МУС.

## Дэйв Льюіс

**Галоўны трэнер зборнай Беларусі па хакеі, канадскі спецыяліст, пакінуў пасаду пасля трох разгромных паразаў яго падапечных на старце Чэмпіянату свету па хакеі.**



«Пасля няўдалага старту на чэмпіянаце свету, а таксама з улікам сітуацыі, у якой апынулася зборная Беларусі па хакеі з шайбай, Федэрацыя хакея Беларусі і галоўны трэнер зборнай Дэйв Льюіс прынялі сумеснае рашэнне пра тое, што ўзначаліць зборную Беларусі павінен іншы спецыяліст. Дэйв Льюіс лічыць, што змены ў трэнерскім штабе могуць надаць камандзе неабходны імпульс для паляпшэння гульні, таму пакідае размяшчэнне зборнай. ФХБ дзякуе Дэйву Льюісу за сумесную працу», — гаворыцца ў паведамленні Федэрацыі хакея Беларусі.

Варта зазначыць, што Льюіс сышоў не адзін — услед за ім лагер зборнай пакінуў яшчэ адзін трэнер — легендарны беларускі брамнік Андрэй Мезін. Сам Мезін свой учынак пакуль не каментуе, «каб нікому не нашкодзіць», і зазначае, што ён ужо «не ў трэнерскім штабе».

Да канца чэмпіянату свету па хакеі з шайбай выконваць абавязкі галоўнага трэнера зборнай Беларусі па хакеі будзе Сяргей Пушкоў. Беларусь прайграла Швецыі (5:0), Францыі (6:2) і Расіі (6:0).

## Мікіта Аляксееў



**Украінскі спявак пад сцэнічным псеўданімам Alekseev, які прадстаўляў на «Еўрабачанні» Беларусь, не трапіў у фінал музычнага конкурсу.**

Па выніках галасавання ў першым паўфінале «Еўрабачання–2018» Беларусь з песняй «Forever» украінскага спевака Alekseev не трапіла ў фінал, які адбудзецца 12 мая ў Лісабоне. Пераможцамі першага паўфіналу сталі Аўстрыя, Эстонія, Кіпр, Літва, Ізраіль, Чэхія, Балгарыя, Албанія, Фінляндыя, Ірландыя.

За час удзелу Беларусі ў «Еўрабачанні» краіну на конкурсе ўпершыню прадстаўляў іншаземец. Песня Аляксеева «Forever» 17 лютага перамагла ў фінале нацыянальнага адбору.

Раней беларускія ўдзельнікі адбору патрабавалі дыскваліфікаваць Мікіту Аляксеева, кажучы, што яго песня парушае правілы конкурсу, бо была прадстаўленая задоўга да адбору. У камандзе спевака такія абвінавачанні адпрэчвалі.

Беларусь удзельнічае ў «Еўрабачанні» з 2004 года. У фінал яе прадстаўнікі выходзілі ў 2007 (Дзмітрый Калдун), 2010 (гурт «3+2»), 2013 (Алёна Ланская), 2014 (Тэа) і 2017 гадах (NaviBand). Лепшым стаў вынік Дзмітрыя Калдуна — шостае месца.

а | Азбука паліталогіі


Сяргей НІКАЛЮК

# Хто і чаму прыватызаваў Перамогу




Сяргей НІКАЛЮК

**Праблема будучыні — гэта не праблема цаны на нафту, а праблема нацыянальнай ідэнтычнасці.**

Гэты тэкст быў напісаны 4 траўня, г.зн. да пачатку афіцыйных мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню «нашай Перамогі». Цэнтральным элементам святкавання, напэўна, мусіў стаць выступ адзінага палітыка (АП) — такая традыцыя. Аднак і не слухаўшы прамову, можна меркаваць, што мы пачуем гэтым разам. Думаю, прагучыць прыкладна тое ж, што ў мінулым, пазамінулым і ва ўсіх папярэдніх выступах па гэтkix жа лёсавызначальных для беларусаў нагодах.

Годны адказ атрымаюць тыя, хто «зробіць спробы перапісаць гісторыю, забраць у нашага народа Вялікую Перамогу». А такіх ва ўмовах росту міжнароднай напружанасці і ідэі сусветнага панавання, што адраджаецца чарговым разам, з кожным днём становіцца ўсё больш. Яны растуць — ну зусім як грыбы пасля дажджу.

Свой шанец быць згаданай ёсць і ў так званай «пятай калоны», прадстаўнікі якой спяць і бачаць, як бы чарговым разам арганізаваць нешта «з мэтай дэстабілізацыі абстаноўкі ўнутры краіны». На постсавецкай прасторы ва ўсіх ***«так называемых»*** сёння свята. Але радуюцца яны дарэмна. У Беларусі ніколі не будзе так, як у Арменіі, бо ёсць каму забяспечваць бяспеку дзяржавы, падтрымаць стабільнасць.

## Зрабіць даклад няма каму

На думку мастацтвазнаўцы Алега Генісарэцкага, антонімам здрады з'яўляецца не вернасць, а самазванства — г.зн. агучванне прэтэнзій на валоданне чым-небудзь ці ўспадкаванне чаго-небудзь. Як гэта рэалізуецца на практыцы, нам рэгулярна дэманструе АП. У рэдкім выступе на тэму «нашай Перамогі» не гучыць безапеляцыйная заява: «Мы — нашчадкі вашай Перамогі».

Мы — гэта хто? Усе беларусы ці толькі тыя, што здольныя аб'ядноўвацца пад стрэхамі канструктыўных арганізацый грамадзянскай супольнасці (ветэранскіх, прафсаюзных, моладзевых, жаночых і да т.п.)? Тут міжволі прыгадваюцца не названыя ў Канстытуцыі Усебеларускія народныя сходы, якія прымаюць рашэнні, абавязковыя для дзяржаўных органаў. Яны сапраўды ўсебеларускія? Калі так, дык чаму ў 2006 годзе афіцыйна зарэгістраваны кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін быў збіты людзьмі без апазнавальных знакаў пры спробе прыняць удзел ва ўсенародным вечы? Чаму сабраныя больш за 100 тысяч подпісаў не паслужылі яму пропускам на гэтую вакханалію прамога народаўладдзя?

Згодна з канстытуцыйным рэферэндумам 1996 года, святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі было перанесенае на 3 ліпеня — дзень вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў. Галасавалі беларусы дружна. Не без дапамогі абноўленага ЦВК яўка падскочыла на 20 працэнтных пунктаў у параўнанні з рэферэндумам 1995 года (з 64,8% да 84,1%).

Галасуючы за перагляд мінулага, беларусы трымалі ў розуме будучыню. Але пабудова будучыні патрабуе намаганняў — у тым ліку творчых. Тыя, хто ў Беларусі вось ужо чвэрць стагоддзя занятыя будаўніцтвам «дзяржавы для народа», сваю здольнасць да творчасці не дэманструюць. Не выключана, што па прычыне асабістай сціпласці.

Для таго, каб пераканацца ў справядлівасці высновы наконт творчай імпатэнцыі, дастаткова звярнуцца да пасажаў Паслання–2018, прысвечанага будаўніцтву беларускай АЭС.

Працы на Астравецкай пляцоўцы пачаліся ў 2011 годзе. У 2019-м павінен быць запушчаны першы рэактар. Падстаў для сур'ёзных хваляванняў быццам бы няма, калі б не адно «але». Ні адзін «з сотні навукоўцаў, тысячы спецыялістаў у сістэме Мінэнерга і Мінбудархітэктуры» да гэтага часу не знайшоў магчымасці зрабіць уцямны для АП даклад, «як станцыя будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны». На коне 10 мільярдаў долараў грошай падаткаплацельшчыкаў, а дакладаць няма каму!

Ну як тут не пагадзіцца з дырэктарам «Лявада-цэнтра» Львом Гудковым, што «ўлада, якая пазбаўленая вобразаў або праектаў будучыні, асуджаная на павольную дэградацыю, і мусіць несці вялікія выдаткі на тое, каб трымаць пад кантролем незадаволенасць і сацыяльны пратэст, што будуць нарастаць».

## Культура не бывае нічыя

Наконт хуткасці дэградацыі беларускай улады я б з мэтрам расійскай сацыялогіі паспрачаўся. Што ж да выдаткаў на стрымліванне пратэстаў — тут за прыкладам далёка хадзіць не трэба: 3 мая на нарадзе па вырашэнні актуальных пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі АП запатрабаваў «літаральна паспець атрымаць максімум выгады з кан'юнктуры, якая склалася, і захаваць апераджальную дынаміку ва ўсіх сферах».

Цяпер знешнеэканамічныя ўмовы спрыяльныя. Нафта даражэе. Даходы бюджэту растуць. У гэтай сувязі АП нагадаў аматарам аказваць дзяржаўную падтрымку прадпрыемствам (ураду) і скарачаць дзяржаўны доўг (фінансістам), што «бюджэт служыць мэтам сацыяльнай палітыкі. Падаткі павінны максімальна вяртацца ў грамадства праз медыцыну, адукацыю, заработную плату бюджэтнікам, падтрымку найбольш уразлівых слаёў насельніцтва».

У год пятых прэзідэнцкіх выбараў (2015) рэальныя грашовыя даходы беларусаў скараціліся на 6%. Пры гэтым мітусні з нагоды сацыяльнай палітыкі на вяршыні ўладнай «вертыкалі» зафіксавана не было. Але часы мяняюцца, пра што, дарэчы, пастаянна нагадвае АП. І таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ўплыў падзей у Арменіі на палітыку (адмова ад рэферэндуму), а цяпер — і на сацыяльна-эканамічную сферу з кожным днём выяўляецца ўсё больш выразна. З улікам жа ўзроўню адкрытасці працэсаў выпрацоўкі палітычных рашэнняў у Беларусі неабходна памятаць, што назіральнікам у нас даступная толькі вяршыня айсберга.

Цэны на нафту валацільныя (ад англ. «volatility» — «зменлівасць»). Але праблема будучыні — гэта не праблема цэнаў на нафту і газ, не праблема эканомікі. «Гэта перш за ўсё, — тлумачыў культуролаг Андрэй Пеліпенка, — праблема этна-культурнай ідэнтычнасці: таго сэнсавага комплексу, які складае аснову існавання грамадства».

Культура не бывае нічыя. Выдатна сказана! Шкада, што не мною, таму працягну цытаванне: «Дыялог культур — гэта не сімфонія «агульначалавечых каштоўнасцяў», якіх ніколі не існавала, а ўзаемадзеянне спецыфічнасцяў. Часам гарманічнае, але часцей — канфліктнае, і гэта цалкам нармальна».

Аднак для эфектыўнага ўдзелу ва ўзаемадзеянні спецыфічнасцяў неабходна, як мінімум, вызначыцца з уласнай спецыфічнасцю, інакш атрымаецца, як у вядомай прымаўцы пра рыбку...

АП, які пачынае адлік беларускай дзяржаўнасці ад «нашай Перамогі», тым самым адмаўляецца ад тысячагадовай гістарычнай пераемнасці. Але, на шчасце, ёсць беларусы, што не асацыююць сябе з праўладнай большасцю і яе кумірам. І такіх у рэспубліцы-партызанцы не менш за 30%! Праблем з усведамленнем сваёй прыналежнасці да Еўропы яны не адчуваюць.

## Подзвіг без трагедыі

Сярод падзей XX стагоддзя, якімі ганарацца беларусы, Перамога па-за канкурэнцыяй. У якасці прадмета гонару яна ўдвая апярэджвае здабыццё дзяржаўнай незалежнасці і не пакідае ніякіх шанцаў Кастрычніцкай рэвалюцыі — 78%, 40% і 5% адпаведна (НІСЭПД, сакавік 2013 года).

За такой сацыялогіяй нескладана разгледзець вушы яшчэ дасавецкай прапаганды. «Дарагі Леанід Ільіч», які змяніў Хрушчова на пасадзе генеральнага сакратара ЦК КПСС у выніку крамлёўскай змовы, адчуваў відавочны дэфіцыт легітымнасці. Перамога ў вайне яго гарманічна запоўніла. З аналагічнай праблемай на постсавецкай прасторы сутыкаюцца і многія незмяняльныя лідары. Таму кола прапаганды круціцца сёння не толькі ў сілу інерцыі, але і ў выніку пастаяннага падсілкоўвання ўсімі відамі рэсурсаў з боку дзяржаў.

Дзяржаўныя міфы, зрэшты, як і любыя міфы, працуюць на спрашчэнне. Без гэтага яны не могуць прэтэндаваць на папулярнасць. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ў грамадскай свядомасці застаецца пераважна трыумфальны бок вайны, а трыумф не пакідае месца для разумення, для працы над памылкамі.

«Вайна з драмы такім чынам ператвараецца ў бясконцае свята, яе сэнс затуманьваецца рытуаламі, парадамі і салютамі. Атрымліваецца трыумф без смутку. Эмоцыі без думкі. Подзвіг без трагедыі». Гэтую цытату я запазычыў з дакладу Свабоднага гістарычнага таварыства «Якое мінулае патрэбна будучыні Расіі» (2017). А якое мінулае трэба будучыні Беларусі?

Калі рабіць высновы паводле выступаў АП, дык за мінулае можна быць спакойным, таму што «мы нікому не дазволім фальсіфікаваць гісторыю Вялікай Айчыннай. Мы трапятлівa і беражліва ставімся да яе...»

Залатыя словы. Але як яны рэалізуюцца на практыцы? У год 70-годдзя Перамогі толькі 41% беларусаў чулі пра існаванне сакрэтных пратаколаў да Пакту Молатава — Рыбентропа і верылі ў іх, 15% — чулі, але думалі, што гэта фальшыўка, а 44% — пра гэта не ведалі і не здолелі нічога адказаць.

Усё правільна. «Перамога — гэта святое! І дакранацца да яе можна толькі чыстымі рукамі і з чыстай душой» (АП). Але калі так пойдзе і далей, то хутка беларусы будуць адмаўляцца верыць, што на шосты дзень вайны немцы занялі Мінск. Для асабліва дапытлівых растлумачу, што разліковы тэмп маршу (маршу, а не наступу!) пяхотнай дывізіі — 20 кіламетраў на дзень, а адлегласць ад Мінска да Брэста складае больш за 350 кіламетраў.

# «Навошта вы дапамагаеце прастытуткам?», альбо Што не так з талерантнасцю беларусаў?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ці сапраўды беларусы — талерантная нацыя? Што мы разумеем пад талерантнасцю: цярпімасць, прынянце, а можа, раўнадушша? Ці павінна быць мяжа ў талерантнасці і дзе яна мусіць праходзіць?**



Злева направа: Ірына Альхоўка, Наста Лойка, Аляксандр Аўдзевіч

Фота аўтара

Над гэтымі пытаннямі падчас панельнай дыскусіі, арганізаванай Цэнтрам новых ідэй, разважалі праваабаронца Наста Лойка, экспертка ў галіне гендарнай роўнасці і абароны правоў жанчын Ірына Альхоўка ды грамадскі актывіст, кіраўнік Лідскага міжраённага грамадскага аб'яднання «Рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-вазочнікаў» Аляксандр Аўдзевіч.

## Талерантны — не значыць абыякавы

Не так даўно інтэрнэт-супольнасць Беларусі абуралася тым, што ў Гомелі суседзі не дазваляюць жыхару з інваліднасцю ўсталяваць у пад'ездзе пад'ёмнік, каб можна было на вазку трапіць на вуліцу. Але здзіўленне перастае быць такім моцным, калі ўзгадаць вынікі апублікаванага паўгода таму даследавання амерыканскіх спецыялістаў узроўню талерантнасці ў розных краінах Еўропы, паводле якога Беларусь увайшла ў тройку неталерантных дзяржаў. Краіну ўтвараюць яе грамадзяне — значыць, асноўная праблема ў нас саміх.

— Усе мы ў чымсьці неталерантныя. Але калі паназіраць за дзецьмі, яны вельмі часта не адрозніваюць людзей па знешніх прыкметах. Таму больш натуральна — быць талерантнымі, — лічыць Наста Лойка. — Але ў нейкі момант з'яўляюцца стэрэатыпы, і пасля гэта ўвасабляецца ў адкрытыя формы дыскрымінацыі. Я бачу дзве прычыны неталерантнасці: сацыяльна-культурныя і псіхалагічныя. Калі пакапацца, выяўляецца, што вельмі шмат рэчаў нам навязваецца звонку, — гаворыць праваабаронца.

Свет вельмі мабільны, мы ўсе кудысьці перасоўваемся. Нам трэба ўмець камунікаваць, і талерантнасць — добры спосаб рабіць гэта спакойна і прадуктыўна, упэўнена праваабаронца.

Яшчэ адна ўдзельніца дыскусіі Ірына Альхоўка нагадвае, што талерантнасць — зусім не значыць адсутнасць свайго пункту гледжання.

— Мы можам быць талерантнымі да людзей, якія адрозніваюцца ад нас, але і можам указаць ім на іх памылкі — гэта ўсё можа ўжывацца разам, — кажа яна.

У той жа час, па яе словах, талерантнасць часта блытаюць з раўнадушшам: маўляў, мне ўсё роўна — значыць, я талерантны. Аднак гэта няслушная інтэрпрэтацыя талерантнасці. Аляксандр Аўдзевіч вызначыў яе як цярпімасць, уменне прымаць новае і дапамагаць там, дзе гэта неабходна.

## Раскоша быць сабой

У Беларусі, у тым ліку дзякуючы сродкам дзяржаўнай прапаганды, талерантнасць пераўтварылася ў нацыянальную рысу. Часткова гэта звязана з тым, што доўгі час нашы продкі мірна ўжываліся разам у мультыкультурнай, шматрэлігійнай і полінацыянальнай краіне. Аднак і без скажэння і падмены панняццяў таксама не абышлося.

— Пад беларускай талерантнасцю разумеецца штосьці падобнае на гасціннасць — існуе і такі стэрэатып. Але калі мы будзем параўноўваць з іншымі народамі, то гэты стэрэатып можа распадацца, — гаворыць Наста Лойка.

На думку Ірыны Альхоўкі, «беларусы — гэта тыя, хто ўвесь час церпіць».

— Талерантнасць беларусаў для мяне — ва ўменні цярпець. Але ўсе розныя: для кагосьці гэта сінонім недыскрымінацыі, а для кагосьці — абыякавасці. Талерантным складана быць у закрытым, іерархічным грамадстве, дзе многія рашэнні прымаюцца з пазіцыі сілы. Калі мы расцем у культуры, дзе ўсіх параўноўваюць (пачынаючы з дзіцячага садка і школы), то гэта не спрыяе талерантнасці і самадастатковасці, мы заўжды хочам быць на кагосьці падобнымі. Быць самім ці самой сабой і ганарыцца гэтым — вельмі цяжка.

## «Калі вы не з'едзеце, мы будзем пісаць скаргі»

Агулам досвед удзельнікаў дыскусіі паказвае, што беларусы неталерантныя. Наста Лойка з'яўляецца сузаснавальніцай арганізацыі «Human Constanta», якая займаецца праблемай бежанцаў з Чачні, што не могуць выехаць у Еўропу і вымушаны заставацца ў Брэсце. Па яе словах, вельмі ўражвае, як звычайныя мінакі рэагуюць на чачэнцаў. Калі чачэнскія дзеці праяўляюць звычайныя для свайго ўзросту паводзіны — плёскаюцца вадой з фантана ці падыходзяць панюхаць кветкі — гэта выклікае асаблівую ўвагу берасцейцаў. Больш за тое, арганізацыя вымушана была змяніць офіс, які размяшчаўся ў жылым будынку з шэрагам іншых устаноў.

— Нас запрасілі на сход жыльцоў, дзе сказалі, што баяцца за сваіх дзяцей, баяцца жанчын у хустках, хаця не змаглі прывесці ніводнага прыкладу канфліктаў з гэтымі людзьмі. І нам сказалі, што калі вы не з'едзеце, мы будзем пісаць скаргі на што заўгодна. Скаргаў так і не паступіла, але мы ўсё адно мусілі з'ехаць праз агульную неспрыяльную атмасферу.

Падобныя прыклады прыводзіць і Ірына Альхоўка. Паводле яе словаў, беларусы неталерантныя, асабліва ў адносінах да жанчын, што пацярпелі ад гвалту.

— На нас пісалі скаргі, што мы прапагандуем няправільныя каштоўнасці, хаця мы проста абараняем правы жанчын. Часта сутыкаешся не з адсутнасцю талерантнасці, а з нядобрасумленным выкананнем людзьмі сваіх абавязкаў. Нам задавалі пытанне: «Навошта дапамагаць жанчынам, якія сталі ахвярамі гвалту, калі яны самі выбралі такое жыццё?» Прычым гэта казалі і супрацоўнікі праваахоўных органаў. Таксама, калі дапамагалі жанчынам, якія пацярпелі ад гандлю людзьмі, мы доўга чулі пытанне: «Навошта вы працуеце з прастытуткамі?» У нас існуе меркаванне, што калі жанчына не захоча быць згвалтаванай, яна не будзе згвалтаванай, і што трэба дапамагаць «добрым» людзям, а не «прастытуткам».

У адносінах да людзей з інваліднасцю беларусы таксама не заўжды талерантныя.

— Сёння я наведаў мінскі аквапарк, і было складана дамовіцца, каб мне дазволілі спусціцца з горкі, — распавядае Аляксандр Аўдзевіч. — Абмежаванняў не было ніякіх, але ўсе думалі, што калі я на вазку, гэта небяспечна. Мне давялося сустракацца ледзь не з кіраўніком аквапарка, але насамрэч вырашыць праблему аказалася проста. Ва ўсіх ёсць свае клішэ, што «адразу не», але на пытанне: «Чаму? Ці спрабавалі вы самі?» — адказ: «Ну гэта ж відавочна!»

Адзін з самых эфектыўных спосабаў лепш зразумець іншага — асабістая камунікацыя, перакананы эксперты. Нават калі ў вас не сходзяцца нейкія меркаванні і погляды, гэты момант вельмі збліжае.

— Калі вы не можаце нешта прыняць, я б параіла працаваць над сабой і шукаць адказы ў сабе, — дадае Наста Лойка.

Мы вельмі замкнёныя ў сабе і мыслім па сабе, і калі мы не перастанем замыкацца, «мускул талерантнасці» пачне працаваць. Трэба быць адкрытымі і не ўспрымаць свет як пагрозу, раіць Ірына Альхоўка.

— Талерантнасці, як і эмпатыі, можна навучыцца, калі падыходзіць да гэтага свядома. Але гэта нараджаецца з пачуцця несправядлівасці.

І ўсё ж ёсць з'явы, калі не трэба быць талерантным. Напрыклад, калі людзі прапагандуюць варожасць, то іх трэба спыніць. Не варта цярпець і мовы варожасці ды распальвання канфліктаў. Мяжа талерантнасці можа быць там, дзе пачынаецца актыўны заклік да знішчэння, сышліся на думцы ўдзельнікі дыскусіі.



Малюнак www.smt.kgmtu.ru



Фота www.newspaper.kpfu.ru

**Другую зіму з 1940 на 1941 год мы з маці зімавалі без бацькі, але ўжо ўтраіх. У мяне з'явіўся брацік Лёня, а з ім, як у старэйшага, і клопат-абавязак: пакуль маці аглядалася па гаспадарцы, — гойдаць яго ў калысцы. Болей не было ў маці на каго абаперціся**

# Дзіцячымі вачыма — ВАЙНА

Арсень ЛІС

**Дзіцячае ўспрыманне свету, жыцця — лінейнае. Для пяці-сямігадовага хлапчаняці зыход Польшчы, прыход Саветаў, пачатак вялікай вайны — проста пачарговая змена падзей, жывыя абразкі часу, памятныя і знікомыя ўражанні.**

Зіма 1940 года запомнілася не столькі вялікімі маразамі (яны такі сягалі сарака градусаў, стралялі вуглы будовы, старыя дрэвы), як снежнымі заносамі. Вуліца раптам узвысілася вялізнымі гурбамі — пайшла вышэй платоў. Бачу і праз гады, як маці ў чорна-зялёным вазку на ветры, ледзь упраўляючыся з канём, кіруецца па той уздыбленай снежніне ў дарогу. Выпраўлялася вырабіць патрэбныя паперы, каб паехаць у горад Роўна. Бацька на той час яшчэ не вярнуўся з польска-нямецкай вайны. Затабарыўся дзесь пад Роўна ў лагеры для ваеннапалонных. Напісаў, што яму там ніштавата: заняты вялікай работай — будуюць шашу, вырабляе норму, кормяць няблага. Адно кепска — даймае смутак па доме. На тую вестку без адкладу маці сабралася ў няблізкую дарогу. Пазней калі-нікалі з уражаннямі ад таго падарожжа на Украіну штосьці прыгадвалася ўслых. На перасадках пасажыры бралі цягнік штурмам. Кожны раз прыходзіла ўзрушэнне, як сесці. Але шчаслівая, у цяжку на сёмым месяцы, натоўп літаральна ўнасіў у вагон. Міналі палескія станцыі, з дзяўчатамі на пероне, апранутымі ў вышываныя строі, абутымі ў лапцікі, з чырвонаармейцамі пад ручку. На адной са станцый у чаканні чарговага цягніка раз праняў да слёз пачуты з рэпрадуктара раманс «Выхожу один я на дорогу…»

Шчаслівае душэўнае ўзрушэнне словам, мелодыяй на ўсё жыццё — бывае такое. Уражвала яшчэ паведамленне з рэпрадуктара, выклікала подзіў, недаўменне. Дыктар бойка расказваў пра геройчную працу будаўнікоў, якія на саракаградусным марозе ўзводзілі высотныя будынкі. «Як чалавек вытрымлівае там, на рыштаваннях, на гэткім сіверы?» — думала, пыталася ў сябе. У пачакальні на станцыі Сарны сталага веку мужчына-чарнавус казаў суседу, але голасна, каб пачулася і далей: «Нас ужо, чалавеча, усадзілі ў мяшок, засталося толькі завязаць…» Гаварылі пра вывазы.

Там, пад Роўна, жончыны адведзіны былі нечаканасцю. Здалося, бацька аж спалохаўся, убачыўшы яе ля лагернай брамы. У асобым стане, апранутая ў добрае зімовае паліто, набытае ў знаёмага смаргонскага крамара, побач з хударлявым, гарбаносым лагерным адміністратарам, яна выглядала досыць самавіта. Не сказаць, што змізарнелым лагернікам убачыла яна і свайго Сяргея. Быў не ў вайсковых абносках, як дзе хто, а ў цывільным сціплым картовым касцюмчыку. Нібыта на вольным пасяленні, хоць лагерныя будынкі бачна абходзіла наўкол высакаватая драцяная агароджа. Гаварыць міжсобку ім ніхто не перашкаджаў. Муж пахваліўся, што выбіваецца ва ўдарнікі. Толькі часам неяк нязвычна трымаў правую руку. Прызнаўся, што ахваціў яе: тачкі са жвірам пад насціл для цвёрдага пакрыцця дарогі — цяжкія.

***

Калі пасля лютых маразоў 1940 года наступіла вясна, наша сядзіба апынулася ў нязвычным атачэнні. Вымерз без мала ўвесь вялікі стары дзедаў сад. Засталося толькі тры летнія яблыні на прыгуменні. Яны былі мясцовага заводу і аказаліся больш устойлівымі перад маразамі. Непадалёк ад хаты старая груша, што звычайна кожную вясну апраналася ў белы вэлюм суквецця, цяпер на фоне сіняга неба тоўстымі мёртвымі сукамі нагадвала распяцце. Несамавіта глядзеліся таўшчэзныя камлі старадрэвін-вішань ды іх высунутыя далёка ў прасцяг голыя чорныя сукі-галіны. А так добра было ўлетку, хоць і з цяжкасцю ўзабраўшыся на іх, смакаваць цёмна-чырвоныя сакавітыя ягадзіны.

Другую зіму з 1940 на 1941 год мы з маці зімавалі без бацькі, але ўжо ўтраіх. У мяне з'явіўся малодшы брацік Лёня, а з ім, як у старэйшага, і клопат-абавязак: пакуль маці аглядалася па гаспадарцы, — гойдаць яго ў калысцы. Болей не было ў маці на каго абаперціся. Бабуля мая Прузына ў самае перадзім'е, вялікія маразы 1940 года, адышла ў іншы свет. Толькі праз гады, пазнаўшы жыццё, я мог расшыфраваць незразумелы мне тады яе ўздых: «Няма нічога ўсцешнага». Не было пры яе адыходзе ў вечнасць ніводнага з яе траіх сыноў. Два старэйшыя, хоць і адкрылася ў верасні 1939 года мяжа, як сышлі ў Расію, так і не азваліся. Не было з польска-нямецкай вайны і наймалодшага, яе Сяржкі. Праўда, аказаўся з лагера лістом — дзякаваць Богу жывы.

Я чакаў бацьку. Здаралася, як паглядзець з аддалі часу, дык і смешна. Узабраўшыся на заснежаную страху падпаветкі, я ўглядаўся ў паўднёва-заходнім напрамку, за рэчку. Ведаў, што недзе там, далёка, — бацька. Нават спрабаваў гукаць у той бок на захад сонца. З бацькам было мне надзейна, пэўна. Ён браў мяне ўсюды, дзе толькі было можна, з сабою. Калі схлынала паводка, і рыба пасля нерасту ў вярхоўях вярталася ў Вяллю, мы з ім разам выбіралі з бучоў серабрыстых плотак ды цёмна-зялёных з галоў, вастраносых шчупакоў. Цэлая асалода было ехаць, седзячы за яго спінай высока на возе з сенам, везучы з зарэчнай сенажаці духмяны водар высушанай травы ў адрыну. Ці калі ён, як я потым тое сцяміў, хітраваў, расказваючы мне казкі, пачынаючы з загадкавага: «Даўным-даўно, калі не было яшчэ ні неба, ні зямлі, а людзі калы білі і па плоце хадзілі…» «Як гэта не было ні неба, ні зямлі? — недаўмявалася мне. — Хіба яны не вечныя?» «Нішто не вечнае», — казаў бацька і перастаўаў хітравата ўсміхацца. З палону ён вярнуўся чакана-нечакана. Толькі за два месяцы да выбуху новай вайны. Была раніца. Мы з маці якраз снедалі, калі наш Нэрусь, неяк нязвычна яўкнуўшы пад акном, стрымгалоў кінуўся на Букарава. Што духу паімчаў насустрач мужчыну з чамаданам у руцэ і праз момант ужо кідаўся на яго без лаю. Казаў бацька, што нават патрапіў лізнуць яго колькі разоў у твар. Як было не пазнаць нам таго, каго без мала два гады чакалі.

Не паспеў бацька дома агледзецца, як прыйшла павестка з ваенкамата — наказвалі неадкладна з'явіцца ў Смаргоні з канём і калясьмі. Атрымаў нарад вазіць каменне на пабудову аэрадрома. Новая ўлада загаспадарыла дынамічна. Некаму прырэзала панскай ды асадніцкай зямлі. Тут жа адразу клікала сялян у калектыўную гаспадарку, невядомую на заходнебеларускіх землях з часоў цара Гароху: абшчыннае землекарыстанне на тутэйшых абшарах адышло ў нябыт яшчэ з сярэдзіны XVI стагоддзя, часоў аграрнай рэформы Жыгімонта Аўгуста. Мужчыны з зімы 1940 года былі кінуты на высечку і тралёўку завілійскіх лясоў. Праз Залескую станцыю ішлі і ішлі эшалоны з чырвонаармейцамі і вайсковай тэхнікай, танкамі. Усё дзесь у адзін бок, на Захад.

Нядоўга давялося бацьку вазіць каменне на аэрадромную будоўлю. Зноў загрымела, і на гэты раз мацней, чым калі. У нядзелю нехта прынёс аскабалак цёмна-срабрыстага металу, структурай падобнага да кары старой сасны. Быў гэта асколак бомбы, што скінулі немцы на нашу маленькую станцыю. На шчасце, нядбала мециліся, прамахнуліся. На гасцінцах ноч і дзень грукацела, шумела. Залессе наша і блізкае ад яго Вётхава ляжаць паміж двух гасцінцаў: старога, які праставаў са Смаргоняў да Заскавічаў, Маладзечна і далей на Маскву, і навейшага, без абсады, што ішоў паўднёвей нас праз Паніззе, Сівіцу, Беніцу і зліваўся ў адзін шлях у Маладзечне. Немцы паказаліся ў нас няскора. З вайскоўцаў давялося бачыць перш-наперш чырвонаармейцаў, толькі не ў баявым шыку, як пры эшалонах, што нядаўна ішлі на Захад. Бацька прыводзіў іх цямнюючы ў хату, уладкоўваў аж на ноч у тым застаронку гумна, дзе яшчэ заставалася крыху леташняй саломы. Раніцай рана яны

знікалі гэтак жа непрыкметна, як і прыходзілі. Аднаго разу бацька, які хадзіў да шаўца Аляксандра Салагуба на Яраніну, днём прывёў чалавека без шапкі, коратка стрыжанага, у светла-зялёнай куртцы. З курткі той прыязны малады дзядзька дастаў мне некалькі алоўкаў — сапраўдны падарунак. Быў ён камандзірам танка. Яму ўночы ўдалося ўцячы з эшалону ваеннапалонных, якіх немцы везлі на Захад. Расказваў, скочыў на хаду з цягніка, кулі колькі разоў свістанулі над галавой. Убачыў палоскі поля — апала душа: маўляў, аднаасобнікі, не савецкая зямля, прапаў. Бацька гаварыў з ім добра па-руску — навучыўся ў палоне. Пераапранулі салдата ў сялянскае, далі торбу з боханам хлеба і кавалкам сала. Бацька раіў яму павесіць яе на граблі і даваць сустрэчным «Дзень добры». Адпраўляўся на Усход. «Буду жив, хозяин, доберусь до своих, никогда не забуду...»

Мне тады карцела адшукаць у альшэўніку яго танкісцкі шлем, які шчаслівы ўцякач з палону, пакуль асмеліўся аклікнуць са свайго схову ў кустах бацьку, сунуў у карчы. Невядома, ці ўдалося бедачыне дабрацца да фронту: шмат небяспекі чакала тады чалавека.

З'явіліся і немцы. Самыя першыя з трэскам на матацыклетах праляцелі праз усю вёску і зараз жа павярнулі назад. Відаць таму, што з другога, палявога канца Вётхава, не было выхаду на гасцінец. Праз некалькі дзён яны паваліі групкамі па некалькі чалавек. І з вельмі нязвычным, як нам усім здалося, для салдатаў клопатам. «Матка, яйка, путэр, шпэк!» — наказвалі ваякі ў брудна-зялёнай форме, шапках лычом. Маці давала яйко на такую кампанію, і яны, удзячна махаючы галовамі «Danke, danke» ды нешта сабе гергечучы, вандравалі далей. К канцу дня, здаралася, ужо не было чаго даваць, чым адкупіцца, і маці абвяшчала ім па-польску: «Нема яйка, пан. Шмат тут вас сягоння перавярнулася», — казала ўбок. Пры такой асечцы раз было салдат пагрозліва кінуўся да караніка з пчоламі. Але божыя стварэнні былі на старожы і пры набліжэнні салдата рупна бараніліся. Ваяўнічы тон чужаніцы змяншаўся, ён бег баразной назад да хаты, адганяючы рукамі ад шыі і вушэй раз'ятраных працаўніц мядовых палян.

Раз, праўда, заглянулі да бацькавых пчол спецыялісты, не прафаны. З шасці каранікоў спрактыкаваным вокам адразу прыкінулі тры лепшыя сям'і, выбралі ўвесь мёд да апошняй рамкі. На той раз у хаце сталі збірацца суседзі. Мой малы брацік, седзячы на руках у бацькі, сарваў яго шапку і кінуў на рабаўнікоў. Тады адзін з афіцэраў, а гэта былі яны: па пагонах бацька расчытаў іх званні, дастаў пісталет і стаў акуратна выціраць яго насоўкай. Пасля таго наезду маці параілі схадзіць у гміну, ужо была арганізавана сякая-такая цывільная ўлада, і заявіць пра рабунак. Там сядзелі, аказалася, тутэйшыя людзі, і выпісалі нам як кампенсацыю дрэва. З тых нятоўстых сасонак бацька скідаў пад старой ліпай свіронак, якога раней у нас не было.

Быў яшчэ такі эпізод. Аднаго дня зайшоў у хату, пастукаўшы, салдат і, нічога не просячы, не загадваючы, стаў нялоўка таптацца пры сцяне, бліжэй да качарэжніка. «Што ён хоча?» — сумелася маці. «Дай ты, Алена, на ўсякі выпадак яму яйко», — здагадаўся бацька. Маці вынесла з сяней яму адно яйко, і сяржант, мяркуючы па пагонах, схапіў яго з незвычайнай радасцю ды заківаўся ў паклоне.

Зусім нечаканай для бацькоў аднойчы была прэтэнзія салдата, палітычна пільнага, ці яму не стала жаданага яйка, ці што іншае яго ўзбурыла, добра не памятаю. Помніцца адно, ён раптам вызяры ўся на партрэт Янкі Купалы, што вісеў у нас з часоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Тады яго разам з кніжкамі, памятаў бацька, вазіла і прадавала нейкая жанчына з Вільні. Як на сягоняшні мой довед, была гэта самавітая графіка мастака Язэпа Горыда. Выява паэта, ладная памерам, адбітая на кардоне літаграфскім спосабам. Купала ўдумлівы, вачыма, поўнымі надзеі, глядзеў на свет, людзей — у будучыню. «Сталін!?» — тыцкаючы рукой у напрамку кута, дзе вісеў партрэт, злосна дапытваўся ваяка. Мабыць таму што нядаўна ў нас дзяржаўна гаспадарыла пальнчызна і ад здагадкі, што сярод нямецкіх салдатаў траплялiся пазнаньшчыкі, анямечаныя цягам гадоў, стараліся паразумецца з прыхаднямі па-польску. «To pisaz bialoruski», — даводзіў, тлумачыў блазнаватаму дапытвальніку бацька. Але той няўцямна глядзеў на гаспадара, аж пакуль бацька не спахапіўся і не стаў выяўляць у паветры рух пісання на паперы ды паказваць на паэта. Нарэшце, здаецца, да ідэалагічна пільнага ваякі штосьці дайшло, і ён апяшала, моўчкі шмыгнуў за дзверы.

Праз нейкі час прыход жабракоў у брудна-зялёнай форме прыпыніўся. Быў гэта, відаць, франтавы кантынгент, што пацёк сваім шляхам далей на Усход.

Аднае нядзелі на вётхаўскай вуліцы аб'явіліся нейкія нязвычныя ваяўнікі. Апранутыя ў светла-карычневую ўніформу, у адмыслова пераціснутых па сярэдзіне пілотках, праз вёску ехалі вясёлыя ўсмешлівыя вершнікі. У аднаго на сядле сядзеў прыгожы бухматы кот, у іншага з крупу каня звісала прытарочаная да сядла гітара. Яны не пабіраліся, не прасілі яйка, масла, сала, а проста ехалі ў свет ні як на вайну, а як на пагулянку. Некалькі чалавек спынілася пры нашых варотах, зайшлі ў хату.

У нас на той час, як часта здаралася святочным днём, было дома пару суседзяў. Адзін з чужнікоў, чорны, белазубы, падышоў да стала, і торгнуўшы за край белага абруса, стаў нешта пытацца, вымаўляючы пры гэтым слова «рус». Затым падставіў бацьку перадплечча, паказаў рукой чытаць. На шчытападобнай нашыўцы бацька вычытаў слова «Espaniol...» «Гішпанцы?» — запытальна паглядзеў на візіцёраў бацька. Яшчэ паўтарыў: «Espaniol». Яны на знак згоды заківалі галовамі. «Глядзі, знаюцца на нашай геаграфіі, — сказаў бацька ў бок суседзяў. — Гэта ж, торгаючы белы абрус, дапытваюцца, мусіць, беларусы мы ці рускія». І выразна патросшы канец абруса, сказаў да гішпанцаў: «Рус», — а пад тое слова суседзі Іван Шыман і Южык Павел заківалі галовамі: «Беларусы!» Так як бы і паразумеліся. На тым і разышліся, узаемна ківаючы адны адным галовамі. Людзі, сарваныя крывавай паводкай вайны з Пірынеяў, і тутэйшыя хлебаробы, па зямлі якіх спрадвеку з Усходу на Захад і з Захаду на Усход ішлі ваяры, несні галовы пад меч найчасцей не за свае, а за чужыя інтарэсы.

Было тое недзе ў канцы лета 1941-га. Бацька аглядаў шырокія калодкі — прыстасаванне, укапанае ў зямлю, на якім гнулі палазы. Большая з калодаў, эліпсападобная, дзеля трываласці была акута металічнай паласой. Бацька мацаваў тую шыну, пастукваў па ёй малатком. Я на той час круціўся пры ім, незаўважна да нас ціха падышоў чалавек і даў «Дзень добры». Бацька ўсміхнуўся яму як знаёмцу, падаючы руку для вітання. Я ж пазнаў у чалавеку колішняга купца нашай садавіны не адразу. Потым мільганула ў памяці, як прыязджаў ён да нас возам, удваіх з хлопцам, сынам ці, можа, парабкам. Дамовіўшыся з бацькам, пасылаў ён таго хлапца лезці на нашу вялікую грушу трэсці яе. Грушы падалі важка і доўга. Затым удвах яны збіралі долу іх у вялікія кашы. Мне было неяк несамавіта на душы.

Непатрэбнымі, мізэрнымі здаваліся тыя белыя манеты з выбітымі на іх арлом і вусатым чалавекам, што прыезджы даваў бацьку за грушы. Быў тады гэты чалавек жвавы, гаманкі. Цяпер жа прыйшоў панылы, нягалены, у чорным пакорчаным касцюме, на якім была нашыта жоўтая латка. Яны даўгавата гаварылі з бацькам, прысеўшы на прысвіронку. Я цікаваў здалёк, бо бацька загадаў мне ісці пагуляць. Затым на кароткі час зайшлі ў хату. Калі чалавек пайшоў, я спытаўся, чаму на пінжак прычапіў ён тую латку-зорку. Бацька адказаў не адразу. Сказаў: «Не сам прычапіў, прымусілі... — і тут жа спыніў мой роспыт неяк нядбала. — Шмат будзеш знаць — рана састарээш...» З размовы бацькоў улавіў няўцямнае слова «гета». Маці абраніла адно: «У бядзе чалавек, гора ў людзей...» Але не патлумачыла, што да чаго.

Быў канец жніўня, апошні спелы яблык ружавеў на старой дзедавай яблыні, як да нас на падвор'е зайшлі двое, цывільны ў суправаджэнні салдата. Спытаўшы, хто ёсць гаспадар, цывіль сказаў: «Нямецкая ўлада загадвае здаць радыёпрымач № такі-татакі». Наш дэтэктарны ўраз знік у салдацкім заплечніку. Аказвацца, наша радыёскрыначка са слухаўкамі ўжо ўлічана ў спісах нейкай структуры Рэйха як патэнцыйны сродак сувязі з вонкавым светам. Бацька каментаваў тое здарэнне словамі: «Хочуць, каб слухалі адно іх каманду».

Тут было як бы ўсё ясна. А вось некалькі дзён раней адбылася прыгода, што мяне, прызнацца, бянтэжыла. У нас на дварэ сабраліся людзі, вяскоўцы і прапанавалі бацьку быць як бы прадстаўніком іх перад нямецкай уладай. Мабыць, памятала вёска бацькава заступніцтва за яе кроўнае пры паляках. Бацька тады быў даверам вёскі, калі яна судзілася з панам за сервітут. Яшчэ перад сходам маці з бацькам нешта абмяркоўвалі, і цяпер бацька цвёрда выказаў людзям сваю нязгоду на іх просьбу. Сказаў, каб выбралі для гэтага каго-небудзь іншага.

Мне было не зразумела, чаму бацька адмаўляецца ад даверу, які выказалі яму людзі, суседзі. Да таго ж для службовых патрэб яму абяцалі выдаць ровар. Мець ровар было маёй марай. Яшчэ большай, чым некалі лыжы. Тады, калі мне моцна захадалася, бацька адразу выстругаў іх на варштаце і ўрачыста аб'явіў: «Маеш ясянёвыя, здолееш на іх бегаць з ветрам на перагонкі». Тым часам вецер не абганяўся, пакуль навучыўся на іх крочыць, часам станавіліся нажніцамі, і я ляцеў памірносам у снег. З роварам не выйшла, шкада. Пазней я ўразумеў бацькаву ўпартасць перад сходам. Меў рацыю, што не пагадзіўся тады з грамадой.

Што да шэфа новаўладнай тут структуры, солтыса, то ён нябавам быў выбраны ці хутчэй прызначаны. Мне разам з усімі давялося бачыць яго ў нашай хаце на сходзе. Перад сабранымі стаяў пажылы, сярэдняга росту чалавек у камізэльцы з аўчыны. Як на кій, ён абапіраўся адной рукой на старую зашмальцаваную стрэльбу, шапялявячы, нягучна прамаўляў да людзей. Пэўна, даводзіў нейкія патрабаванні новай улады, бо часам чулася адно, што запомнілася мне слова «парадак».

Быў гэта Аўгуст з суседняй вёскі Міхневічы. Яшчэ ў тую вайну ён, кайзераўскі салдат, прыстаў наўпрымы да тутэйшай жанчыны. За дваццаць з лішкам гадоў у беларускім вясковым асяроддзі Аўгуст натуралізаваўся. Гаварыў па-нашаму, смешнавата скажаючы асобныя словы пры вымаўленні. Перадавалі са смехам сакраментальны выраз Аўгуста з яго нядоўгай начальніцкай практыкі: «Маўчы, злодзей, бо заштрэлю і пойдзеш, плачучы!..» Яго добра ведалі ў ваколіцы, некаторыя маладзейшыя вучыліся ў яго сталяраваць. Благога на сваім становішчы нікому не паспеў зрабіць: не было такога ў яго натуры, а вось дапамагчы як солтысу яму часам удавалася.

Так пры першым арышце дзядзькі Мікалая Германа, мужа маёй хроснай, Аўгусту ўдалося яго выбавіць. Коля Герман, родам з Зарудзіч, гадунец паэта, камсамольца-падпольшчыка з польскіх часоў, Алеся Салагуба, у 1940–1941 гадах рабіў сакратаром у Залескім сельсавеце. На трэці месяц вайны яго арыштавалі як савецкага актывіста і пасадзілі ў турму ў Старой Вілейцы. Цётка Вера, не марудзячы, пайшла ў Міхневічы да Аўгуста, і той на першым часе выратаваў свайго былога вучня-сталярука. Але такое ўдалося толькі раз. Партызанкі, хоць бы на знак, у той час у нас яшчэ не было. Дзядзька Мікалай, помніцца мне рослы, чарнявы, сядзеў ціха. Нідзе ні схінуўся. Праз пэўны час яго ў другі раз арыштавалі.

Гэтым разам адначасна з самім Аўгустам. Казалі, спецслужбы, пэўна гестапа, раскапалі мінулае сталяра, уведалі, што быў ён сацыял-дэмакратам, і цяпер, значыць, разам з патэнцыйнымі праціўнікамі новага парадку падлягаў ліквідацыі. Яму, як і яго навучэнцу Герману, было наканавана не выйсці жывым з Вілейскай турмы. Дзядзька Мікалай, казалі, памёр там быццам ад тыфу.

Перад тым родныя спрабавалі яго яшчэ раз выручыць. Дзед Юстын, папраканы за скупасць, не задумваючыся, выдаткаваў дачцэ некалькі залатых дзясятак царскай чаканкі, і цётка Верка адправілася ў Вілейку. Здолела дастукацца да нейкага там турэмна-лагернага начальніка. Быў гэты нехта рускі афіцэр на нямецкай службе па прозвішчы Някрасаў. Якраз піў каву ў сваім кабінеце. Размовы не атрымалася. «Герман Мікалай — камуніст, вораг Германіі і новай Еўропы. Гутаркі аб яго звальненні быць не можа. Ні пры якіх умовах...» Бедная хадайніца адчула бяссілле тут важкага высакароднага металу. Мог быць ён дзейсны пры выкупцы радавога ваеннапалоннага з-за дроту. Тут жа вырашала ідэалогія, установа дзяржавы. Са скрухай і сардэчным болем вярталася мая хросная да хаты.

Быў час, і ён доўжыўся ўжо некалькі дзесяцігоддзяў, калі жыццё асобнага чалавека было надта мала чаго варта. І гэта ўсведамлялася не толькі дактрынёрамі рэальных палітычных сістэм, запанавалых у Еўропе, але такім яно было і ў вачах народу паспалітага, простых людзей.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Жарсці па кандомах

У Грузіі скончылася незвычайная барацьба супраць прыхільнікаў і праціўнікаў прэзерватываў, якія выпускала адна з мясцовых фірмаў. Пачалася яна прыкладна два месяцы таму, калі ў продажы з'явіліся прэзерватывы вытворчасці адной грузінскай кампаніі. На пакунках прадукцыі можна ўбачыць розныя малюнкі, да прыкладу, манумент Маці Грузіі, выявы святой царыцы Тамары, дзяржаўных дзеячаў, палітыкаў. Там таксама былі надрукаваныя афарызмы з Шата Руставелі ды нецэнзурныя грузінскія прымаўкі. Такі маркетынг абурыў клерыкалаў, якія пачалі розныя акцыі за забарону вырабаў №2, бо палічылі іх здзекам з гісторыі і рэлігіі. Аднак у кандомаў знайшліся і прыхільнікі. Партыя «Дэмакратычная ініцыятыва» назвала пераслед вытворцаў прэзерватываў абмежаваннем свабоды слова і думкі, а таксама парушэннем Канстытуцыі. Акрамя таго, гэтыя прэзерватывы можна было набыць толькі праз інтэрнэт. Аднак у выніку супрацьстаянне скончылася на карысць ахоўнікаў маралі. Суд пастанавіў аштрафаваць дырэктара прадпрыемства, што выраблялa скандальныя сродкі кантрацэпцыі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Уладу — палякам?

У Вялікабрытаніі 3 мая прайшлі мясцовыя выбары, удзельнікамі якіх упершыню сталі кандыдаты ад партыі «Duma Polska». Яна была зарэгістраваная ў лютым гэтага года. Асноўныя прычыны стварэння партыі брытанскіх палякаў на яе сайце гучаць наступным чынам: «Палякі фактычна з'яўляюцца самай буйной нацыянальнай меншасцю ў Лондане, але да гэтага часу не маюць сваіх прадстаўнікоў у мясцовых органах. Таму надышоў час, каб змяніць гэта. Палякам Брытаніі важна, як будуць працягвацца далейшыя перамовы наконт нашага статусу пасля выхаду Вялікабрытаніі з Еўрапейскага саюза». У прынцыпе, «Duma Polska» — гэта асабісты праект экстравагантнага бізнесоўца Яна Жылінскага, які раней ён ужо балатаваўся на пасаду мэра Лондана, заняўшы ў выніку перадапошняе месца. Не асабліва паспяховым аказаўся і бенефіс яго партыі. Ні адзін з 14 кандыдатаў ад праекту Жылінскага не трапіў у мясцовыя саветы. Зрэшты, этнічныя палякі ўдзельнічалі ў выбарах і па-за шэрагам структураў «Duma Polska». Усяго з 16 тысяч кандыдатаў такіх было 118. Па выніках галасавання 14 этнічных палякаў усё ж здолелі атрымаць дэпутацкія мандаты.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Калі ў татараў з'явілася дзяржаўнасць?

Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін падпісаў указ «Аб святкаванні 100-годдзя абвяшчэння Рэспублікі Татарстан» у 2020 годзе. Нагадаем, што 7 мая 1920 года была выдадзеная пастанова Саўнаркама РСФСР аб стварэнні татарскай аўтаноміі. Аднак такая дата не спадабалася шматлікім татарскім актывістам. На іх думку, татарская нацыя мае тысячагадовы вопыт дзяржаўнага будаўніцтва, і перш за ўсё Казанскага ханства (1438–1552). Аднак гэтая ідэя не падабаецца ліберальным нацыяналістам, якія прапануюць адзначаць юбілей 29 лістапада, калі ў 1917-м быў выдадзены ўказ парламента цюрка-татараў (Мілі Меджліса) аб стварэнні штата Ідэль-Урал. Аднак і тут ёсць праблемы. Штат Ідэль-Урал (у 1918 годзе перайменаваны ў Ідэль-Уральскую Рэспубліку) быў, па сутнасці, не нацыянальнай (гэта значыць — не татарскай нацыянальнай) рэспублікай, а шматнацыянальнай аўтаноміяй народаў Паволжжа і Уралу. Існуе ў гэтых дэбатах і трэцяя пазіцыя. Яе адэпты звяртаюць увагу на тое, што ў рэальнасці ў Татарстане не вядзецца ніякай падрыхтоўчай работы да святкавання стагоддзя аўтаномнай рэспублікі, нават абвешчанай у 1920-м годзе.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Пагроза малярыі

Добрая навіна для тых, у каго няма грошай адпачываць на французскай Рыўеры — найбольш шыкоўных пляжах Еўропы. Там у гэтым годзе будзе яўна не да адпачынку. Улады Францыі папярэдзілі пра пагрозу смяротных эпідэмій. Гаворка пра вірус Зіка і ліхаманку Дэнге, якія пераносяць так званыя «тыгровыя камары» або, кажучы па-навуковаму, Aedes Albopictus. Менавіта такія камары зараз з'явіліся на поўдні Францыі і актыўна акупуюць усю краіну. Іх прысутнасць зафіксавалі ў трацінe французскіх дэпартаментаў, і нават у адным з прыгарадаў Парыжу. Пакуль няма інфармацыі, што гэтыя камары пераносяць па Францыі смяротныя хваробы, аднак, як кажуць медыкі, ад іх усяго можна чакаць. Справа ў тым, што не так даўно ліхаманку Дэнге знайшлі на востраве Рэюньён — у французскім заморскім дэпартаменце ў Індыйскім акіяне. Праз камунікацыі з Рэюньёнам хвароба можа ў любы час трапіць у метраполію.

**Паводле французскай прэсы**

# Плюс салахаманія ўсяго свету

Алег НОВІКАЎ

**Дзякуючы фантастычнай гульні егіпецкага футбаліста Махамеда Салаха свет ахапіла салахаманія, якая можа мець і значныя сацыяльна-культурныя наступствы.**



Фота www.sport-express.ru

У лютым гэтага года Егіпет «абіраў» прэзідэнта. Слова «абіраў» узятае ў двукоссі, паколькі пераможца быў вядомы загадзя. Абдул-Фатах Ас-Сісі — аўтарытарны кіраўнік дзяржавы — атрымаў элегантную перамогу, узяўшы 98 працэнтаў. Аднак выбарчая гонка на берагах Ніла мала цікавіла сусветную супольнасць не толькі праз яе штучны характар. Слова «Егіпет» апошнім часам выклікае асацыяцыі выключна з Махамедам Салахам — гульцом англійскага клуба «Ліверпуль», які творыць на полі сапраўдныя цуды.

На працягу гэтага сезона ён забіў ужо 43 галы ў 49 гульнях. Дзякуючы галам Салаха «Ліверпуль» прарваўся ў фінал Лігі Чэмпіёнаў, дзе будзе змагацца за галоўны трафей еўрапейскага клубнага футболу. Два галы Салаха ў вырашальнай гульні забяспечылі выхад зборнай Егіпта на Чэмпіянат свету ў Расіі. Махамеду ўжо далі тытул лепшага футбаліста англійскай футбольнай лігі ў гэтым сезоне, лепшага арабскага футбаліста, лепшага футбаліста Афрыкі. Лічыцца, што Залаты мяч — прыз лепшага футбаліста Еўропы — таксама амаль у яго кішэні.

Аматары футбола проста шалеюць ад фінтоў і галоў 25-гадовага Салаха. Лепшым індыкатарам тут, напэўна, з'яўляецца попыт на сувенірныя футболкі — копіі тых, якія носяць гульцы на полі. Упершыню за апошнюю дэкаду назіраецца скарачэнне попыту на футболкі такіх папулярных футбалістаў, як партугальца Ранальда або аргенцінца Месі. Іх нішу сёння заняў Салах.

Натуральна, усе рэкорды салахаманія пабіла на радзіме куміра. Практычна ў кожнай егіпецкай кавярні вісіць постэр з выявай Махамеда. Графіці са спартовым кумірам упрыгожваюць шматлікія гарадскія муры. Яго вобраз актыўна эксплуатуюць рэкламныя канторы. Калі верыць газеце «Egypt Today», ледзь не на кожным другім білбордзе ў Егіпце сёння выяўлены Салах, які нешта рэкламуе — ад цукерак да банкаўскіх крэдытаў. Мястэчка, дзе нарадзіўся спартсмен, стала турыстычным аб'ектам. Мясцовыя ахвотна распавядаюць пілігрымам пра тое, як у дзяцінстве Махамед кожны дзень дзве гадзіны (у тым ліку пешшу) дабіраўся да Каіра, дзе гуляў за свой першы у кар'еры клуб.

Аўтарытэт футбаліста ў Егіпце такі каласальны, што яго называюць «новай егіпецкай пірамідай», «новым фараонам» і нават «прэзідэнтам Махамедам». Праўда, пакуль сам Салах у палітыку намагаецца не лезці. Ён актыўна працуе ў сферы філантропіі і прапаганды здаровага ладу жыцця. Трэба сказаць, што дасягненні і тут фантастычныя. Прыкладам служыць гісторыя з кампаніяй супраць наркотыкаў, якую публічна падтрымаў спартсмен. Пасля гэтага колькасць наркаманаў, якія звярнуліся па дапамогу, каб пазбавіцца ад кепскай звычкі, вырасла на 400 працэнтаў.

Папулярнасць футбаліста, напэўна, трошкі турбуе ўладу Егіпта. Незалежнае выданне «New Arab» сцвярджае, што на згаданых лютаўскіх выбарах каля 7 працэнтаў выбаршчыкаў (гэта прыкладна 2,6 мільёна чалавек) напісалі ў бюлетэнях прозвішча «Салах». Тыя бюлетэні пасля прызналі сапсаванымі. Акрамя таго, у Каіры ўсе ведаюць пра лёс Джорджа Веа — футбаліста з Ліберыі, які зрабіў імя ў Еўропе, каб пасля вярнуцца на радзіму і ў снежні мінулага года быць абраным прэзідэнтам. Менавіта поспехі на футбольным полі зрабілі з Веа найбольш папулярнага чалавека на радзіме.

**Брытанская правая «Daily Mail» б'е у званы — усё больш і больш дзяцей у Еўропе, забіўшы гол, спрабуюць паўтарыць пераможны жэст егіпецкага футбаліста: кінуцца на калені і зрабіць выгляд, што моляцца Алаху**

Аднак, гледзячы па ўсім, пакуль егіпецкія ўлады бачаць больш карысці ў салахаманіі. Салах выклікаў такі вялікі інтарэс да футболу, што адцягнуў моладзь ад палітыкі. Сацыяльныя сеткі ў Егіпце больш не заклікаюць да рэвалюцыі, як некалькі гадоў таму падчас «арабскай вясны». Цяпер усе тынейджары ў краіне пагалоўна мараць пра футбольную кар'еру. Акрамя таго, дзякуючы Салаху вырас знешнепалітычны аўтарытэт Егіпта ў арабскім свеце, а еўрапейскія замежнікі не так часта крытыкуюць Ас-Сісі за парушэнні правоў чалавека.

Аднак цалкам застава́цца па-за палітыкай у Салаха не атрымліваецца. Усё праз уласцівыя яму забабоны. Махамед — зацяты вернік ісламу, і кожны забіты гол адзначае тым, што падае на газон і выказвае падзяку Алаху. Гэтая працэдура мела самыя незвычайныя сацыяльныя і культурныя наступствы.

Прагрэсіўная прэса ўсур'ёз спадзяецца, што Салах зробіць Еўропу больш талерантнай да мусульман. «Яго (Салаха) вера і яе публічныя праявы зрабілі яго постаццю істотнай сацыяльнай і культурнай значнасці. У той жа час урад паралельна намагаецца стварыць «варожае асяроддзе» для нелегальных імігрантаў», — піша «New York Times». Спадзяюцца на тое, што Салах пасрыяе талерантнасці еўрапейцаў да мусульман у цэнтры Еўропы. Там кажуць, што кожны год колькасць атак на мусульман у Еўропе вырастае на 40 працэнтаў.

А вось кансерватыўная фракцыя еўрапейскага грамадства ў жаху ад моды на Салаха. Брытанская правая «Daily Mail» б'е у званы — усё больш і больш дзяцей у Еўропе, забіўшы гол, спрабуюць паўтарыць жэст егіпецкага футбаліста: кінуцца на калені і зрабіць выгляд, што моляцца Алаху. Натуральна, хапае на гэты конт і жартаў. Так, фанаты «Ліверпуля» прыдумалі куплет: «Калі Салах заб'е яшчэ адзін гол, я таксама стану мусульманінам».

Ці ператварыцца салахаманія ў сапраўдны чыннік, які здольны ламаць старыя нормы і ствараць новыя ўстаноўкі, шмат у чым залежыць ад гульні Салаха на Чэмпіянаце свету ў Расіі. Аднак і цяпер Махамед Салах — гэта феномен у спорце.



Фота www.iz.ru

# Ад Сакартвела да Залатой Арды

Алег НОВІКАЎ

**Назва Грузіі па-літоўску ад 4 мая гучыць як «Сакартвела» — так самі грузіны цяпер называюць сваю краіну. Але Грузія — не адзіная постсавецкая дзяржава, дзе жадаюць адмовіцца ад назвы, што замацавалася ў часы Расійскай імперыі ці СССР.**

Лагічна будзе пачаць з самой Літвы. Праўда, тут пакуль паўстала дыскусія выключна пра змену англамоўнай назвы краіны — з Lithuania на Lituania. Лабістамі зменаў выступаюць эканамісты, якія кажуць, што цяперашняя назва краіны з'яўляецца цяжкай для неангламоўных людзей. Часам іншаземцы не могуць нават вымавіць назву дзяржавы. Гэта дрэнна адбіваецца на пазнавальнасці краіны ў свеце. У якасці прыкладу ўзгадваюць Эстонію, якая яшчэ ў 1921-м перайшла з Esthonia на Estonia.

Калі ў Літве ўсё пакуль на ўзроўні дэбатаў экспертаў, то ва Украіне пытанне рэбрэндынгу краіны абмяркоўваецца ў самых высокіх эшалонах улады. Часцей за ўсё прапануецца дадаць да назвы Украіны слова «Русь». Ідэя таксама не новая. Тэзіс пра існаванне тысячу гадоў таму дзяржавы «Русь-Украіна» належыць вядомаму гісторыку Міхаілу Грушэўскаму, піянеру ўкраінскай дзяржаўнасці. З пачаткам канфлікту з Расіяй пра канцэпты Грушэўскага зноў узгадалі. Лічыцца, што новая назва падкрэсліць гістарычную незалежнасць ад Расіі, якую, у сваю чаргу, прапаноўваецца называць «Масковіяй». У 2016-м справа дайшла да канкрэтнага законапраекту, які, аднак, не дапусцілі да абмеркавання. Магчыма, дэпутатаў збянтэжыў пункт пра тое, што пасля прыняцця закону слова «Расія» на ўкраінскай тэрыторыі павінна было пазначаць Украіну.

Наступная краіна, дзе кажуць пра новую назву, — Малдова. У Малдове гучаць заклікі далучыць да назвы краіны дадатак «Бесарабія». Справа ў тым, што Малдова — краіна шматнацыянальная, але самі малдаване лічацца этнічнай групай. І калі мы гаворым «малдаване», то кажам пра асобную этнічную групу (румынскую). Гагаузы, рускія, украінцы і балгары ўспрымаюцца як адрозныя ад «малдаван» этнасы. Такая формула ўкаранілася ў грамадскай свядомасці. «А вось тэрмін «бесарабец» можа з'явіцца кансенсусным для ўсіх этнічных і палітычных катэгорый. Нават выкарыстанне паняцця «бесарабская нацыя» будзе ўспрымацца нармальна», — кажуць аматары змены назвы.

У Арменіі таксама даўно прапануюць змяніць назву краіны. З такой ініцыятывай у мінулым годзе выступіў міністр адукацыі і навукі Армен Ашацян. На думку чыноўніка, дзяржаву варта называць «Рэспубліка Усходняя Арменія». Справа ў тым, што гістарычную Арменію прынята падзяляць на Усходнюю і Заходнюю. Усходняя ўваходзіла ў склад Персіі, а з пачатку XIX стагоддзя стала правінцыяй Расійскай імперыі. На частцы Усходняй Арменіі была створаная спачатку Армянская Рэспубліка, а пазней і Армянская ССР — падмурак цяперашняй Арменіі. Заходняя Арменія цяпер уваходзіць у склад Турцыі.

Раней з падобнай ініцыятывай перайменавання выступалі дэпутаты ў Азербайджане. Яны прапаноўвалі перайменаваць рэспубліку ў Паўночны Азербайджан, каб нагадаць, што населеныя азербайджанцамі тэрыторыі ўваходзяць і ў склад паўднёвага суседа — Ірана.

Кіраўнік Казахстана Нурсултан Назарбаеў у 2016-м таксама прапанаваў падумаць наконт перайменавання краіны. На яго погляд, краіна можа называцца «Казак Елі» (Краіна Казахаў). Ініцыятыву адразу ж падхапіла асяроддзе лідара, якое пабачыла ў гэтым праяву генія Елбасы. Далучыліся да дыскусіі і блогеры, якім падабалася назва «Казахская Арда». Аднак паколькі сам Назарбаеў да тэмы больш не вяртаўся, праблема перайменавання Казахстану знікла з палітычнай павесткі дня.

Не абышла мода на новыя назвы і Узбекістан. Некаторыя ўзбекі мяркуюць, што іх краіна магла б называцца «Залатая Арда». Праўда, далей за акадэмічныя колы дэбаты на гэты конт не выйшлі. Таму яе ўдзельнікі дазваляюць сабе выяўляць самыя беспрэцэдэнтныя геапалітычныя амбіцыі. Аўтар залатаардынскага праекту, Рустамжан Абдулаеў сцвярджае, што Узбекістан, атрымаўшы новую назву, аўтаматычна стане правапераемнікам часткі краін СССР, якія паўсталі на землях Залатой Арды. Сярод краін, на тэрыторыю якіх павінен прэтэндаваць Узбекістан, ён называе Расійскую Федэрацыю, Казахстан, Кіргізію, Таджыкістан і Туркменію.

Напэўна, самыя незвычайныя аргументы за перайменаванне гучаць у Кыргызстане. Прыхільнікі змены назвы краіны лічаць цяперашнюю назву няўдалай, паколькі за мяжой Кыргызстан блытаюць з Курдыстанам. Акрамя таго, постфікс «стан» стварае асацыяцыі з Афганістанам і іншымі краінамі, дзе амаль 40 гадоў пануе палітычны хаос. І якая ж альтэрнатыва Кыргызстану? Альтэрнатыва назва — «Кыргызжэр» («жэр» па-кіргізску — «зямля»). Іншы варыянт новай назвы — Рэспубліка Фергана. Фішка ў тым, што Ферганская вобласць, як лічаць аўтары ідэі, была ядром Какандскага ханства — першай у гісторыі дзяржавы кіргізаў.

Некаторыя расіяне таксама незадаволеныя назвай «Расійская Федэрацыя». Той жа скандальны Уладзімір Жырыноўскі, які прапанаваў паставіць «палову свету на калені», перайменаваўшы краіну ў Расійскую імперыю.

Напрыканцы варта адзначыць, што тапанімічныя змены — складнік любой дэкаланізацыі. Нездарма практычна ўсе былыя еўрапейскія калоніі пасля абвяшчэння незалежнасці намагаліся пазбавіцца каланіяльнай тапанімікі, і гэты працэс не скончыўся дасюль. У гэтым плане дэбаты пра новыя назвы краінаў экс-СССР — рэч цалкам натуральная. З іншага боку, вельмі часта пераход на новую назву краіны падаецца яе насельніцтву як панацэя ад усіх праблемаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нікі Хэйлі



У амерыканскай прэсе 45-гадовую прадстаўніцу ЗША ў Генасамблеі ААН пачалі разглядаць як аднаго з самых перспектыўных кандыдатаў ад рэспубліканцаў на выбарах 2020-га.

Аказалася, што яна пасуе як дэмакратам, так і рэспубліканцам. Будучы удзельніцай адміністрацыі Трампа, Хэйлі тым не менш крытыкуе найбольш папуліцкія крокі свайго патрона, накшталт закону пра забарону візітаў грамадзян шэрагу мусульманскіх краінаў. Паколькі Хэйлі — дачка этнічнага індуса, верніка сікхізму, ёй сімпатызуюць нацыянальныя меншасці. Нарэшце, яна мае практычны досвед як былы губернатар Паўднёвай Караліны.

Самае цікавае, што ўздыму папулярнасці Хэйлі наўпрост спрыяла Масква, дыпламаты якой актыўна атакуюць яе падчас пасядженняў Рады бяспекі ААН. У любым выпадку, фігуру Хэйлі пазітыўна ўспрымае амерыканскае грамадства. Паводле CNN, палітык сімпатычная 75 працэнтам электарату рэспубліканцаў і 55 працэнтам выбаршчыкаў дэмакратаў.

Трэба таксама ўзгадаць, што Хэйлі шмат у чым сімвалізуе магчымасці амерыканскай жанчыны, а 2020 год — год выбараў прэзідэнта — таксама пройдзе пад знакам сотай гадавіны надання амерыканкам права голасу. Праўда, незразумела, ці адмовіцца Трамп ад другога тэрміну на карысць Нікі. Пакуль у гэта не вельмі верыцца.

### Міхаіл Саакашвілі



Былы прэзідэнт Грузіі, які зараз знаходзіцца ў Нідэрландах, умяшаўся ў рэвалюцыйны працэс у Арменіі.

У прыватнасці, па ходу падзей у Ерэване экс-кіраўнік Аджарскай вобласці, выправаджаны за апазіцыйную дзейнасць з Украіны, актыўна раздаваў інструкцыі ўдзельнікам пратэстаў: «Менш слухайце Маскву і будзьце бліжэй да сваіх грамадзянаў, ад гэтага вы толькі выйграеце!» — пісаў, у прыватнасці, Саакашвілі на адрас лідараў пратэстоўцаў. Ён таксама заклікаў лідара апазіцыіНіколу Пашыняна не давяраць элітам, якія звязаныя з Масквой: маўляў, яны не дапусцяць правесці радыкальныя рэформы. У выніку Саакашвілі так дастаў Пашыняна, што той публічна абверг сувязі з экс-прэзідэнтам Грузіі.

Між тым, такая цікавасць Саакашвілі да Арменіі выклікала чуткі, што ён плануе паспрабаваць сябе на армянскай палітычнай арэне. Тым больш, што Саакашвілі мае армянскія карані. Яго дзед Міхаіл Саакаў ніколі не хаваў таго, што ён армянін, і змяніў прозвішча, толькі калі стаў рэктарам тбіліскага ВНУ. Ёсць і іншая версія: Саакашвілі намагаецца выкарыстаць армянскія пратэсты ў якасці прыкладу для Украіны, дзе ў яго засталося дастаткова шмат прыхільнікаў.

### Даніла Медына Санчэс



Урад прэзідэнта Дамініканскай Рэспублікі заявіў, што адмаўляецца ад дыпламатычнага вызнання Тайваня як незалежнай дзяржавы і лічыць яго часткай КНР.

Рашэнне Санта-Дамінга разглядаюць як вялікую перамогу Пекіна, які намагаецца дыпламатычна ізаляваць Тайвань, куды ў 1949-м збег ад камуністаў гаміньданаўскі ўрад Кітайскай рэспублікі. З таго часу Тайвань лічыць сябе адзінай легальнай кітайскай уладай — у тым ліку са спасылкай на дыпламатычнае прызнанне з боку шэрагу краінаў. На працягу 1980-х гадоў, калі на Тайвані назіраўся эканамічны цуд, слабаразвітыя краіны трэцяга свету пагаджаліся на дыпламатычныя кантакты з Тайбэем. Тое, што такі крок азначаў аўтаматычны разрыў дачыненняў з Пекінам, тады мала каго хвалявала. Аднак цяпер кітайскі дракон набраў моц і бярэ рэванш. У пазамінулым годзе тайваньцаў выгналі з Гамбіі, у мінулым — з Панамы, а цяпер і з Дамінікан.

Трэнд вельмі непрыемны для Тайваня ў кантэксце таго, што Вашынгтон апошнім часам пачаў рабіць асцярожныя крокі ў накірунку пашырэння кантактаў з тайваньскай адміністрацыяй. Так ці інакш, цяпер на планеце засталося толькі 18 дзяржаў, якія дыпламатычна прызнаюць Тайвань. Чакаецца, што пасля Дамінікан гэты клуб хутка скароціцца. Напэўна, толькі Ватыкан будзе трымацца да апошняга, каб выказаць пратэст супраць праследу кітайскіх католікаў.

11 мая 2018 | № 17 (580) Новы Час

# Этналагіня Ніна Абрамчык

## Пра невядомую спадчыну дыяспарніцы

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

*Мы арлы маладое сям'і —*
*Нашы душы агнямі заліты;*
*Бурай хваляй наперад ідзём,*
*Рассяваем укруг агняцветы.*
*Раса (Н. Абрамчык), 1936.*

Паэтка, пісьменніца, фальклярыстка, «прэзідэнтыха» — усё гэта Ніна Абрамчык, падзабытая прадстаўніца беларускай дыяспары Францыі. Яна ўвесь час заставалася ў цені мужа, апісвалася, як і большыня іншых актыўных дзяячак, у святле патрыярхальнай традыцыі, як жонка Міколы Абрамчыка.

Па вайне яна паспрабавала выдаваць газету «Беларуска», з'явіўся адзін нумар, які дасюль немажліва адшукаць ані ў парыскіх фондах (напрыклад, у Нацыянальнай бібліятэцы Францыі), ані ў Скарыўнаўцы. Ёсць падазрэнне, што газета так і засталася ў рукапісным ці друкапісным варыянце.

Па просьбе мужа Ніна не працягнула навуку, пачатую яшчэ ў Вільні (у аграноміі), а засталася побач з ім, каб дапамагаць і падтрымліваць. А пазней, ужо пасля смерці Міколы Абрамчыка, з-за таго, што яна не вярнула архівы, трактавалася негатыўна, як капрызная, свавольная і досыць пыхлівая кабета.

Гартаючы нядаўна французскія часопісы, я зусім нечакана напаткаў артыкулы па-французску, падпісаныя «этналагіняй Нінай Абрамчык» (une ethnologue Nina Abramtchik).

Якраз пра гэтую новую іпастась дзяячкі і варта было б распавесці, каб адкінуць у бок дыяспарныя спрэчкі, крыўды і натуральную людскую неідэальнасць. Тым больш, што мала ў нашай гісторыі даследнікаў, якія працавалі ў французскай мове. Ніна Абрамчык — адна з тых рэдкіх франкамоўных беларусак. Да ўсяго, перыяд яе жыцця пасля смерці мужа ў 1970-м да ўласнай смерці ў 2004 годзе застаецца досыць цьмяным. Вядома, што яна доўгі час працавала ў парыжскім Музеі чалавека. Цяга да навукі і праца ў такім месцы, няма сумневаў, паспрыялі навуковай дзейнасці дыяспарніцы.


Сям'я Абрамчыкаў


Ніна і Мікола Абрамчыкі

У канцы 1990-х гадоў у французскіх навуковых часопісах («Eurasie», «Ethnozootechnie») з'яўляюцца артыкулы этналагіні Ніны Абрамчык. На яе даследаванні жаночай традыцыйнай культуры спасылаюцца квебекскія даследчыцы (Pauline Greenhill I Diane Tye, 1997 год).

У часопісе «Eurasie» Ніна Абрамчык надрукавала тры грунтоўныя артыкулы, прысвечаныя розным аспектам традыцыйнай культуры беларусаў. У нумары за 1995 год супрацоўніца Музея чалавека апублікавала даследаванне «Le lin chez les Biélorussiens, un exemple de sacralité locale» (Лён у беларускай культуры, прыклад мясцовай сакральнасці).

У 1999 годзе Ніна Абрамчык апублікавала падобныя фальклорныя апісанні і аналіз, што датычыць месца і значэння каня ў традыцыйнай культуры беларусаў: «Le cheval en Biélorussie. Contes et emblèmes» (Конь у беларускай культуры. Казкі і сімвалы). Праўда, артыкул з'явіўся ў калектыўным зборніку, што быў прысвечаны вобразу і месцу каня ў еўрапейскай культуры.

У 2000 годзе даследчыца напісала артыкул пра гісторыю і значэнні колераў у беларускай культуры «Couleurs de Biélorussie (Belarus)» (Колеры Беларусі).

У 1998 годзе ў выніку канферэнцыі, як вынікае з прадмовы да часопіса «Ethnozootechnie», спадарыня Ніна апублікавала артыкул «Курка і яйка ў беларускай народнай культуры» (La poule et l'œuf en Biélorussie). Яна пераклала беларускія казкі, вершы, прымаўкі, у якіх закранаецца тэма куркі і яйка. Аўтарка цікава падала абразы з ужыткам слова «курыца»: «мокрая курыца», «яшчэ не знеслася, а ўжо квохча» і падобнае, пазначаючы, што яны існуюць у традыцыйнай культуры толькі ў дачыненні да кабетаў. Акрамя казак і прымавак яна апісала харчовыя традыцыі беларусаў і спецыфіку ўжывання курыцы і яек. Цікава, што ў даследаванні Ніны Абрамчык выразна прысутнічае гендарная прызма: і ў аналізе стэрэатыпаў, абразаў, звязаных з курыцай у бок чалавека (кабеты перадусім), і ў апісанні культуры дагляду за птушкамі. Як заўважае этналагіня, у апісанні звычайнага падзелу курыцы за сялянскім сталом адбіваецца патрыярхальная традыцыя: шыя, галава, грудка аддавалася гаспадару, крылы — дочкам, бо ім усё адно «адлятаць з сямейнага гнязда», кумпячкі — сынам, ім трэба хадзіць-працаваць, азаддзе — гаспадыні, бо «ёй усё адно дома сядзець». І такі на першы погляд анекдатычны падзел, насамрэч, часта сустракаецца ў Беларусі (нават у гарадскіх беларусаў) і па сёння.

Важна пазначыць цікавыя заўвагі даследчы што да велікодных, пераважна паганскага паходжання, традыцыяў, звязаных з яйкамі. Акрамя класіфікацыі яек (скрабанка, пісанка, крашанка), яна апісвае народныя сродкі фарбавання велікодных яек: брунатны і руды колер яек ад шалупіння цыбулі, зялёны колер ад бярозавага лісця, чырвоны колер ад парання яек у бураках, фіялетава-сіні ад чарнічніку, жоўты колер ад нагаткоў і гэтак далей.

Цікава, што дыяспарніца ў артыкулах падае дзве версіі назвы Беларусі — Bélarus і Biélorussie. У 1990-х гадах, калі Беларусь набыла незалежнасць, такая вольніца ў французскай мове дазвалялася, але потым у ёй зноў усталяваўся аднабаковы расіяцэнтрычны варыянт Biélorussie. Што да прыметніку «беларускі», то ў Ніны Абрамчык паўсюль захоўваецца дыяспарны змагарскі варыянт biélorussien, а не расіяцэнтрычны biélorusse. Цяперашнія беларусы Францыі пераважна пішуць па-акадэміцку, адмовіўшыся ад прынцыповасці: biélorusse і Biélorussie. А вось Ніна Абрамчык яшчэ памятала змаганне за саманазву, якое вялі яе муж і Леў Гарошка.

**Цікава, што дыяспарніца ў артыкулах падае дзве версіі назвы Беларусі — Bélarus і Biélorussie. У 1990-х гадах, калі Беларусь набыла незалежнасць, такая вольніца ў французскай мове дазвалялася, але потым у ёй зноў усталяваўся аднабаковы расіяцэнтрычны варыянт Biélorussie**


Жонка Наўмовіча, жонка Абрамчыка, Рыдлеўскі. 1950 год

Амаль выпадковае адкрыццё этналагічнай дзейнасці Ніны Абрамчык — чарговы напамін пра тое, што мы слаба ведаем сваю культуру, не цэнім дыяспару, якая будавала масткі з іншымі культурамі, мовамі і спадзяваліся пра масты з радзімай. Мажліва, такія адкрыцці тэкстаў дыяспарнікаў — гэта і ёсць тыя масты, пра якія яны марылі. Спадзяюся, што ў архівах па-французску нас яшчэ чакаюць цікавыя адкрыцці беларусікі.

І, безумоўна, адкрыццё франкамоўнай Ніны Абрамчык — гэта пасланне ўсім беларусам, якія вандруюць і наведваюць Парыж: іншым разам, калі вы апыняцеся на могілках Пер-Ляшэз у пошуках могілак Джыма Морысана, Эдыт Піяф, Калет ці Пруста, завітайце, калі ласка, яшчэ і на могілкі нашай слыннай суайчынніцы.

# Габрэй? Узбек? Беларус?

Аляксей ХАДЫКА

**Ёсць на Смаленшчыне старажытны беларускі горад Веліж. Зараз — расійскі, бо ўваходзіць (капрызы гістарычнага лёсу і вынікі камуністычнага панавання 1920-х гадоў) у склад Расійскай Федэрацыі. Насуперак таму, што агульнаімперскі перапіс 1897 года зафіксаваў: у Веліжы 12 193 жыхароў, з якіх габрэяў — 5 984, беларусаў — 5 809, вялікаросаў — 283. Як і па ўсёй Смаленшчыне (за выключэннем мястэчак, дзе прысутнічала вялікая доля габрэйства) — дамінавалі беларусы.**

25 сакавіка 1918 горад Веліж абвяшчаўся часткай Беларускай Народнай Рэспублікі. А 1 студзеня 1919 года ён увайшоў — на пару тыдняў — у склад Беларускай ССР. Аднак 16 студзеня 1919 года бальшавікі далучылі Смаленшчыну да складу РСФСР.

Ці выпадкова дзеячы культуры, навукі, палітыкі, мастацтва, што выйшлі родам з Веліжа — выключна беларусы і габрэі? Прыгадаем: Андрэй Бембель — выдатны беларускі скульптар, Майсей Бераў — беларускі кінадакументаліст, Юрка Віцьбіч — беларускі грамадскі дзеяч, па вайне на эміграцыі, бліскучы пісьменнік і публіцыст, Антон Дубіна — дзяржаўны дзеяч БССР, Канстанцін Забароўскі — танкіст, Герой Савецкага Саюза, Міхаіл Керзін — беларускі скульптар (настаўнік Заіра Азгура, Аляксея Глебава, Андрэя Бембеля, Сяргея Селіханава, Анатоля Анікейчыка). І шмат іншых. Цэлае сузор'е!

Яно не будзе поўнае без яшчэ аднаго чалавека, чый жыццёвы шлях у гады сталасці прайшоў далёка ад радзімы.

Знаёмцеся: Макс Захаравіч Пенсон (1893–1959), савецкі габрэйскі фотамастак. Праўда, сам (як прыгадвае яго дачка Дзіна і сыны) ён называўся «сынам беларускага рамесніка». Пэўна, маем справу з культурна-сацыялагічным вызначэннем, адбіткам асабліва родных мясцін.

Пенсон нечакана «вынырнуў» з нябыту 20 гадоў таму — у лістападзе 1997 і сакавіку 1998 года — выставай у Парыжы ў Луўры (галерэя «Чорны квадрат» — Carre Noir) і вялікім артыкулам у «The New York Times» Сцівена Кінзера. За год перад тым швейцарскае выдавецтва надрукавала намаганнямі гісторыка мастацтваў Эрыкі Білетэр альбом выбраных здымкаў майстра: «Usbekistan: Dokumentarphotographie 1925–1945 von Max Penson». А на выставе ў Парыжы на працы Пенсона звярнуў увагу патрыярх сусветнага фотамастацтва Анры Карцье-Брэсон. Па 1998 годзе цэлай чарадой прайшоў шэраг экспазіцый — у Цэнтры мастацтваў у Маскве (2000), Музеі фатаграфіі ў Сунсвале (Швецыя, 2001), у Маскоўскім Доме Фатаграфій (2003), на Міжнародным фотафестывалі ў Рыме (2003), у Штаб-кватэры ААН (2004), Ташкенцкім доме фатаграфіі (2005), Gilbert Collection у Лондане (2007).

Нарэшце, у Ташкенце, дзе Пенсон правёў асноўную частку жыцця (да смерці, ці, па іншай версіі, самагубства ў 1959 годзе) у 2013 годзе ў галерэі «ART and FACT» адчынілася пастаянная экспазіцыя твораў майстра. Паўстаў спецыяльны сайт — www.maxpenson.com — з раздзеламі бібліяграфіі, біяграфічнымі звесткамі, вялізным алічбаваным архівам здымкаў.

А ў Беларусі, на гістарычнай радзіме фатографа, яго імя застаецца невядомым.

Макс Пенсон нарадзіўся ў сям'і пераплётчыка веліжскай друкарні (нават у невялікім гарадку існаваў кнігадрук). Хлопец рана пачаў цікавіцца мастацтвам, хаця нават пісьменства спачатку спасцігаў самавукам. Затым адвучыўся ў 1907–1911 гадах у Веліжскім гарадскім вучылішчы (туды яго ўладкаваў бацька, які працаваў пры ўстанове ў пераплётнай майстэрні) ды накіраваўся на Палтаўшчыну, у Міргарад. Але ў мясцовай мастацка-керамічнай школе правёў толькі паўгода: неставала сродкаў на навуку. Перабраўся ў Вільню: там, у мастацка-прамысловай школе Льва Антакольскага, давалі стыпендыю. У віленскай школе займаўся па 1915 год, і, па версіі сына Мірона, у гэты час выпадкова сустракаўся з Маркам Шагалам. Але пачалася Сусветная вайна, эвакуацыя прыфрантавых раёнаў, выбухнулі габрэйскія пагромы. У выніку Макс з'ехаў — туды, дзе, як ён спадзяваўся, навала антысемітызму і вайна ніколі не заспеюць. Паехаў далёка — у правінцыйны Каканд ва Узбекістане.

Мелася адукацыя і жаданне працаваць: Пенсон уладкаваўся рахункаводам і паралельна выкладаў маляванне ў мясцовай школе. У 1921 годзе ён атрымаў першую ўзнагароду: грамату «За ўнёсак у развіццё адукацыі» і падарунак — фотаапарат.

З таго часу ў Пенсона, як жартуючы фатографы, не праходзіла «ні дня без негатыву». Ён фатаграфаваў сваёй простай «Leica» апантана, аддаючы ўсе грошы на фотаматэрыялы. І не дзіва, што, пераведзены ў 1923 годзе ў Ташкент, ён ужо праз два гады зрабіўся карэспандэнтам першага буйнейшага савецкага фотаагенцтва «Руссфото», а ў 1926 годзе — фотакорам «Правды Востока», галоўнай савецкай газеты азіяцкіх рэспублік.

Мастацкая адукацыя і выдатнае веданне сусветнай культурнай спадчыны зрабілі сваю справу: Пенсон бездакорна валодаў кампазіцыяй, святлаценню, адчуваў рытм і малюнак лініі, выразнасць вобраза. Фатаграфаваў імгненна, адчуўшы адпаведны момант. Зразумела, адбіраў лепшае з мноства фотаадбіткаў. І пры гэтым у яго творах праяўлялася, ажывала брутальная выразнасць сучаснага канструктывізму. Нездарма яго параўноўвалі з лідарамі савецкага фотамастацтва адпаведнага канструктывісцкага кірунку — Лісіцкім і Родчанкам. Вядучы спецыяліст Расіі па гісторыі фотамастацтва Вольга Свіблава, якая ў апошнія два дзесяцігоддзі арганізавала некалькі выстаў Пенсона і мае калекцыю яго твораў у сваім Мультымедыа Арт Музеі ў Маскве, ставіць яго, як мастака, нават вышэй за Аляксандра Родчанку. А адкрыццё яго архіва называе апошняй знаходкай такога кшталту і ўзроўню ў свеце. Аўтар швейцарскай манаграфіі пра Пенсона Эрыка Белетэр, у сваю чаргу, параўноўвае свайго героя з ці не найлепшым сучасным фотажурналістам — бразільцам Себасцьянам Сальгаду.







З 1920-х гадоў працы Пенсона пачалі друкаваць агульнасаюзныя выданні — «Огонёк», «СССР на стройке» (адзін з нумароў быў цалкам праілюстраваны работамі Макса). У 1936 годзе ён атрымаў трэцюю прэмію на фотаконкурсе газеты «Правда». А ў 1937-м адбыўся трыумф: на Сусветным фотабіенале ў Парыжы работа Пенсона «Узбекская мадонна» рашэннем журы была ўганараваная галоўным прызам, залатым медалём.

Сын Макса Мірон (у 1999 годзе з'ехаў у Нью-Ёрк), таксама фатограф, як і шмат хто з крытыкаў, адзначаў, што на працы Макса Пенсона адбіваліся рэдакцыйныя заданні і цэнзура. Багата работ паўставала на заводах, у школах, у калгасах, на будоўлях. У тым ліку вялікага Ферганскага канала, уручную ўзвядзенага за лічаныя гады. Таму майстар увайшоў у гісторыю як летапісец пераўтварэння Узбекістана на сучасны лад. Але творчасць Пенсона вызначалі таксама высокі мастацкі густ і алюзіі класічнага мастацтва (адну работу нават параўналі за светлавыя эфекты з творамі Леанарда да Вінчы), і ўвага да чалавека — настрояў, пачуццяў, шчырых перажыванняў. Узбекская мадонна — шчаслівая жанчына новага часу (акцёрка Маргіланскага тэатра Юлдузхон была сфатаграфаваная Пенсонам выпадкова ў час антракту ў парку за тэатрам), якая кормiць дзіця. А ў той жа час паўставалі яшчэ фотаздымкі жанчын у паранджах на вуліцах «традыцыйнага» Узбекістана! Менавіта гэты кантраст, пераход і натуральнасць перададзеных пачуццяў так уразілі еўрапейцаў у работах Пенсона на выставе ў Парыжы.

Што тычыцца фотаздымкаў будоўляў, то праца Макса на Ферганскім канале не прайшла марна. Там у 1940 годзе Пенсон пазнаёміўся з Сяргеем Эйзенштэйнам, які прыехаў здымаць фільм пра ўзвядзенне канала. І за кіпучую энергію назваў Макса «ўсюдыісным Пенсонам».

У 1944 годзе прайшла першая персанальная — і апошняя пры жыцці — фотавыстава Пенсона ў Саюзе мастакоў УзССР.

Надышоў 1949 год, а з ім тое, чаго Пенсон ніколі не чакаў на Савецкім Усходзе. Хваля барацьбы з касмапалітызмам — і з «сіянізмам» — дакацілася да Ташкента. Макс быў яе першай ахвярай: яго звольнілі з агенцтва, газеты, а затым НКУС увогуле забараніў яму займацца фотасправай.

Дзеці прыгадвалі: 56-гадовы, абсалютна здаровы і поўны творчай энергіі бацька, якога не бралі на працу нават у правінцыйныя газеткі, змушана зачыніўся ў хаце. Паліў здымкі рэпрэсаваных мадэляў. І займаўся дзіўнай справай — на некаторых партрэтах сціраў вочы і маляваў іх нанова. Можа, хацеў, каб людзі больш спагадліва глядзелі на свет.

Праз 10 гадоў, у 1959 годзе, памёр (ці засіліўся), усімі забыты.

У 1966 годзе, падчас разбуральнага землятрусу ў Ташкенце, яго архіў, — каля 40 тысяч здымкаў і негатываў, — апынуўся пад развалінамі дома. На шчасце, быў выратаваны дзецьмі, двума сынамі-фатографамі, а найперш дачкой, фатографам і супрацоўніцай «Узбекфільма» Дзінай разам з яе мужам, кінадакументалістам і літаратарам Файзулой Хаджаевым. Шмат гадоў пасля таго Дзіна ажыццяўляла тытанічную працу — прыводзіла архіў да ладу, чысціла негатывы, рабіла адбіткі з кожнага. Нарэшце ў сярэдзіне 1990-х гадоў у Ташкент завіталі госці са Швейцарыі, якія шукалі след пераможцы Парыжскага фотабіенале 1937 года. А потым прыехала Вольга Свіблава з Масквы.

З гэтага моманту пачалося трыумфальнае вяртанне Пенсона. Большая частка арыгіналаў Пенсона — у Ташкенце (каля 30 тысяч). Частка — у Нью-Ёрку (8,5 тысяч), няшмат — у Маскве.

Спачатку спадчыннікі скардзіліся: у Ізраілі яго не прызнаюць, мала раскрываў габрэйскую тэму (што абвяргаюць выдатныя здымкі, хоць бы «Бухарскія габрэі»), для рускіх ён чужы, і узбекам як бы не свой. Зараз пытанне так не стаіць. Пытанне стаіць, чаму яго не ведаюць у Беларусі? Яго, каторы называў сабе «сынам беларускага рамесніка». Ды так упэўнена, што нават у «New York Times» зазначылі: Пенсон нарадзіўся ў невялічкім беларускім мястэчку Веліжы.

# Як пенапласт і тынк з'ядаюць мастацтва

Арыя ГАТАЛЬСКАЯ

**Калі ў іншых краінах, часам зусім небагатых і не самых «духоўных», мастацкімі каштоўнасцямі абвяшчаюцца нават сучасныя графіці, Беларусь трапляе ў ганебны герастратаў шэраг. У краіне планамерна знішчаюцца аб'екты мастацкай спадчыны, у прыватнасці, манументальнага мастацтва.**



Нелагічна, здавалася б: гіпсавы Ленін, мастацкая вартасць якога блізіцца да нуля, паднаўляецца ледзь не штогод, а побач вартая мазаіка ці пано ў тэхніцы сграфіта ідуць пад уцяпляльнік і раствор.

Гомель да нядаўняга часу «славіўся» толькі адным заўважным знішчэннем. Недзе на пачатку двухтысячных на сцяне Дома быту па вуліцы Інтэрнацыянальнай пад тынк пайшло вялікае пано. Унікальнае нават, з чым згаджаецца і кіраўніцтва «Трыкатажгандаль», сённяшні ўласнік той часткі будынку, на якім была мазаіка: нейкі рэдкі камень быў прывезены аж з Уралу. Гамельчукі памятаюць, што ўраўнаважаны шараваты каларыт работы асвятлялі зыркія ўкрапленні каменьчыкаў ультрамарынавага колеру. Што за пароды каменя былі выкарыстаны ў пано — ужо таямніца: недзе ў пакручастых дзевяностых праектная дакументацыя на ўвесь комплекс быццам бы была згублена, і ўласнік асноўнай часткі былога Дома быту УП «Элегантны дом» пры мінулым рамонце мусіў карыстацца паперамі на тыпавы праект, якія не адлюстроўвалі ўсіх асаблівасцяў гомельскага будынка.




**У нас можна пахаваць цэлы твор мастацтва, атрымаўшы паперку «некаштоўнае, нецікавае»**

Гэты маштабны акт вандалізму можна б было палічыць прыватным выпадкам, казусам. Але шэраг знішчэнняў працягваецца. Некалькі гадоў таму былы будынак пошты на вуліцы Пятруся Броўкі, 11 быў перададзены сістэме крамаў «Еўраопт». Пано-сграфіта (некалькі тоўстых слаёў каляровай тынкоўкі, якія паслойна зчышчаюцца, прадрапваюцца, утвараючы малюнак) тут жа было зраўнанае са сцяной.

А цягам гэтага года на Рэчыцкім праспекце на тарцах пяціпавярховікаў на адмежку ад адміністрацыі Савецкага раёна да вуліцы Жукава зніклі мазаікі савецкай тэматыкі. Чым былі благія дзеці, што падскоквалі пад «пустьвсегдабудетсолнцем» — загадка. Цяпер там шуба ўцяпляльніку і тынку.

Шэраг доўжыцца. На Рэчыцкім пад пагрозай яшчэ адзін аб'ект — і невядома колькі яшчэ па горадзе. Уцяпляльнік з'ядае мастацтва! Ледзь не штотыдзень чутна пра новыя страты. Інтэрнэт паведамляе, што знікла пано на медыцынскім каледжы на вуліцы Кірава, скульптуры савецкага перыяду ля навучальных устаноў, роспісы сцен...

Што гэта? Самадурства ўласнікаў, напушчальніцтва кампетэнтных арганізацый? Пытанняў шмат, не на адзін артыкул, трэба разбірацца. Тым больш, што аддзелы архітэктуры горада не адмаўляюцца ад размовы. Для пачатку ж хопіць і аднаго аб'екта, нешчаслівай мазаікі з Дома быту на Інтэрнацыянальнай, так званых «Ткачых», як яе часцей за ўсё называлі.

Гадоў 12 таму гэта пано камісія прызнала нязначным для беларускага мастацтва і не вартым захавання. Захаваць было вырашана практычна аварыйны будынак, адчайна халодны і мокры нават пасля пахавання мазаікі пад пенапласт і цэмент, ды яшчэ захавалі елкі ля будынку: прыродаахова адстаяла. Праўда, праз нейкі час і елкі былі ссечаныя, як і па ўсім Гомелі: ля Вечнага агню, ля аблвыканкама. Дрэвы ўжо не адпавядалі будаўнічым нормам, давалі цень і вільгаць. На іх месца былі высаджаныя, канечне, прывілеяваныя цяпер (чаму б гэта?) туі.

Кіраўніцтва «Трыкатажгандлю», якое месціцца ў сталіцы, пра гомельскі будынак ведае. Нават выказваюць шкадаванні. Аб тым, што мастацкай каштоўнасці «Ткачыхі» не мелі, не кажуць, хоць зацікаўленасць у зняцці з балансу праблемнага пано была б прадказальная. Можна было б падумаць, што ад мазаікі пастараліся пазбавіцца. Аднак, кажуць, так вырашыла кампетэнтная камісія на чале з навуковым кіраўніком па гісторыка-культурнай спадчыне Якавам Генчанком. Гарадскі аддзел архітэктуры выказвае шкадаванне, што мазаіка была прызнаная нерэстаўравальнай: паводле пратаколаў (якія таксама не захаваліся), страты склалі да 30%. І камень рэдкі, і Урал далёка. Жыхары горада такіх маштабных страт не пацвярджаюць. Аднак у выніку колькі б ні захавалася ад манументальнага твора — усё пад шубай уцяпляльніку і тынку ў стылі «еўрарамонт санвузла».

Зараз асноўны будынак былога Дома быту ператвараецца ў шматфункцыянальны гандлёва-сэрвісна-забаўляльны комплекс. У інтэрнэце былі выкладзены праекты ад «Гомельжылпраекта», на якіх на месцы замураванай мазаікі красаваўся... шырокі ганак з пластыкавымі дзвярыма.

Як сцвярджаюць уласнікі і асноўнага будынка, і яго часткі з пахаванай мазаікай, ад гэтага праекта ўжо адмовіліся. Не з-за пано. Праект з ламанай лініяй ашклення і іншымі складанасцямі аказаўся дарагі. Зараз будынак змяняецца паводле праекту «Гіпрагандлю», які ў адкрытых крыніцах пабачыць не ўдалося. Начальнік тэхнічнага аддзелу ААТ «Трыкатажгандаль» Канстанцін Хафізулін кажа, што рамонтныя работы не закрануць іх частку будынку, а тым больш не разбураць частку сцяны з пано: «Гэта ў «Элегантнага дома» рамонт, перанясенне ўваходу, перапланіроўка, дэмантаж вітражоў. У нас пакуль усё застаецца як ёсць».

Так, яшчэ вітражы. У Доме быту няблага захаваліся некалькі сапраўдных вітражоў сямідзясятых гадоў. Імя іх аўтара, як і аўтара мазаікі, даведацца пакуль не ўдалося. Аказваецца, мы не маем сістэмнай дакументацыі, каталагізацыі такіх аб'ектаў. Аднак у гарадскім аддзеле архітэктуры паабяцалі паспрабаваць высветліць мастакоў, гады стварэння, назву.

Адмаўленне мастацтва, якое магло б быць вартай часткай не толькі культурнага жыцця беларусаў, але і часткай той няўлоўнай нацыянальнай ідэі, якую так доўга ніхто не можа ўцямна сфармуляваць. Напісаны дзясяткі падручнікаў па ідэалогіі, а каго ні спытай, у чым жа яна — няма акрэсленага адказу. Затое ўласнік мае над аб'ектам малаабмежаваныя правы. Гэта ў іншых, недзе далёка, нельга і крануць аб'ект мастацкай вартасці, памяняць, напрыклад, рамы ці дзверы. Ці проста зафарбаваць вядомую мазаіку, будзь яна хоць у цэбе на прыватным двары. А ў нас, выходзіць, можна пахаваць цэлы твор мастацтва, атрымаўшы патрэбную паперку «некаштоўнае, нецікавае».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №126

Падпісана да друку 11.05.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.